PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 11 (2235) Год XLIV · Беласток 14 сакавіка 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Дазвол на памяць

Ганна Кандрацюк

**Рамуальд Райс, псеўданім „Буры", здзяйсняючы лозунг „Polska dla Polaków" адабраў права на жыццё 80-ці жыхарам праваслаўных вёсак Бельскага павета. Права на памяць пра іх адабрала нам Крыстына Лукашук, падляшскі ваявода, — канстатуе Грамадскі камітэт членаў сем'яў памардаваных вазакоў у пісьме-апеляцыі да Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі РП.**

— Справа пабудовы помніка зноў завязла ў ваяводстве, — кажа Юзаф Антанюк, ініцыятар пабудовы помніка (пра гэтую справу пісалі мы ў „Ніве" № 51 ад 20 снежня 1998 г.: „Закалот вакол помніка"). — У канцы мінулага года мы атрымалі адмоўнае рашэнне з ваяводства — забарону будаваць помнік паводле прадстаўленага намі праекта.

— Nie odzwierciedla on (праект — Г. К.) faktów dotyczących konkretnego zdarzenia, — чытаем у абгрунтаванні адмовы.

Негатыўнае становішча выявіў таксама генеральны сакратар Рады аховы помнікаў змагання і пакуты Анджэй Пшэвознік. Сакратару Пшэвозніку не падабаецца выгляд магілы-кургана ды надпіс „Ofiarom zbrojnego podziemia". Прапануе ён замест кургана (з праваслаўным крыжам) адну ляжачую пліту, якая мае быць прысвечана толькі фурманам.

— Мы, каб не дзяліць грамадства, пагадзіліся выкінуць надпіс „Ofiarom mordu zbrojnego podziemia", — кажа Юзаф Антанюк. — Пані ваявода пакуль што не ўспамінае пра крыж. Можа і яго не маем права паставіць?

**Згодна з законам**

Камітэт накіраваў апеляцыю да міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі РП. У пісьме адзначаючы супрацьдзеянні ваяводы, якія зводзяцца да аспрэчвання раней дадзеных дзяржаўнай адміністрацыяй рашэнняў.

— Odmowa Pani Wojewody Białostockiego zezwolenia na budowę pomnika „furmanów" nie jest odmową z powodów prawnych ani merytorycznych — jest odmową polityczną, — чытаем у пісьме-апеляцыі. Юзаф Антанюк наракае на няроўнае прымяненне права. — Нам наказваюць ставіць помнік, які адлюстроўвае факты канкрэтнага здарэння, а тым часам на тым жа ваенным могільніку без ніякага дазволу ветэранскія арганізацыі з падтрымкай дзяржаўнай адміністрацыі ўзнесяць курган з „катынскім" крыжам 16-метровай вышыні і г.зв. „Польскую крыжовую дарогу", ды 18 жалезабетонных пліт. Ніхто, зразумела, не наказваў гэтым будаўнікам, каб іх помнікі адлюстроўвалі факты канкрэтнага здарэння.

**Закалот вакол помніка**

ахвярам „Бурага" не выклікае здзіўлення. Два гады Камітэт змагаўся за дазвол

[працяг ☞ 3]




# За вашу і нашу свабоду!

Мікола Ваўранюк

**Дажыліся. У Беластоку на вуліцы Ліповай дэманстрацыя з бел-чырвона-белымі сцягамі! Нясуць іх... палякі. Маладыя.**

Пад Генеральным консульствам Рэспублікі Беларусь у Беластоку зноў дэманстравалі. У пятніцу 26 лютага на вуліцу Варынскага прыйшло жалобнае шэсце з абгорнутай чырвона-зялёным сцягам труной. На труне надпіс: „Свабода і дэмакратыя ў Беларусі". За ёю чалавек сорак моладзі з бел-чырвона-белымі сцягамі і транспарантамі: „Мінск — Варшава, супольная справа", „Лукашэнка — дазволь жыць!", „Нармальнае жыццё ў нармальнай дзяржаве", „Адчыніце вочы" і „Жыве незалежная Беларусь!" Вузкая вуліца ў цэнтры Беластока напоўнілася вострымі свістамі і воклічамі: „Жыве Беларусь!", „Свабода палітычным вязням!" і „Лукашэнку ў калгас".

Перад зачыненымі дзвярыма консульства, пад непрыемным снегам з дажджом, была зачытана „Петыцыя маладых жыхароў Польскай Рэчы Паспалітай да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Спадара Аляксандра Лукашэнкі": „Мы, маладыя жыхары Польшчы цэнім дэмакратыю. Маладыя людзі, незалежна ад нацыянальнасці, адчуваюць тое, чаго не могуць часам зразумець палітыкі. Таму трэба іх паслухаць, а не арыштоўваць, як Аляксея Шыдлоўскага, Андрэя Клімава, Уладзімера Плешчанку, Яўгена Скочку і многіх іншых палітычных вязняў. Вы зачыняеце вушы на праўду, вочы на іншыя погляды, на іншае ўяўленне дзяржавы. Бар'еры, якія Вы ставіце, не дазваляюць нашым равеснікам з-за ўсходняй мяжы мець надзею на нармальнае жыццё ў нармальнай дзяржаве. Нам, маладым, якія пазналі ўжо добрыя бакі дэмакратыі, як і тым, якім яшчэ не было гэта дадзена, не зачыняць вуснаў глухія і сляпыя на грамадскія патрабаванні палітыкі. Мы будзем надалей дзейнічаць дзеля „вашай і нашай свабоды". Мы верым, што палітычныя муры калісьці абрынуцца і пахаваюць пад сабой стары несправядлівы свет (...). Таму, Спадар Прэзідэнт, дамагаемся ад Вас вызвалення палітычных вязняў, ліквідацыі цэнзуры, патрабуем свабоды слова, маніфестацыі і светапогляду, спрыяння развіццю беларускай мовы і культуры. Адным словам, патрабуем нармальнага жыцця для нашых сяброў у Беларусі".

Петыцыя была даручана генеральнаму консулу Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалаю Крэчку. Прыняў ён яе асабіста ў прыёмнай консульства і ў прысутнасці журналістаў абяцаў перадаць далей дыпламатычнай поштай. Дарэчы будзе тут заўважыць, што Мікалай Крэчка не першы раз у добрым стылі абверг меркаванні беластоцкай прэсы наконт яго асобы (калі яго назначылі, амаль усе пісалі, што ў Беласток на месца прафесара Міхаіла Слямнёва прыязджае паліцэйскі). На свісты, воклічы і петыцыю дэманстрантаў консул Крэчка адрэагаваў са спакойнай усмешкай: „Жывяце ў свабоднай краіне і можаце рабіць што хочаце. Нядаўна дэманстравалі гаспадары, цяпер моладзь... Усё нармальна".

Дэманстрацыю сарганізавала Унія маладых. Заснавалі яе студэнты і вучні сярэдніх школ Беластока — прадстаўнікі розных асяроддзяў і маладзёжных адгалінаванняў палітычных партый, ад кансерватараў з Выбарчай акцыі „Салідарнасць" па Сацыял-дэмакратыю Рэчы Паспалітай. Дэкларуюць яны, што Унія маладых — апалітычная арганізацыя, а яе члены пазбягаюць спрэчных пытанняў і дыскусій, якія маглі б іх падзяліць. Усе з пашанай адносяцца да такіх вартасцей, як дэмакратыя,

[працяг ☞ 3]

## Беларусы ў рэнесансным Кракаве

Самым багатым кракаўскім грамадзянінам беларускага паходжання ў пачатку XVI ст. быў Ян (Іван) Сапега (Сопія) — пачаткова найвышэйшы сакратар Вялікага княства, а пасля маршалак літоўскі і віцебскі ваявода (памёр каля 1517 г.), які ў сталіцы Польшчы меў свой дом па вуліцы св. Анны.

[болей ☞ 4]

## Вайна і перамога

Савецкая прапаганда падкрэслівала асабліва высокую якасць айчыннай зброі. Тым часам, — піша Васіль Быкаў, — наш славуты ППШ па ўсіх параметрах саступаў „шмайсэру". Вінтоўка канструкцыі Мосіна з XIX стагоддзя саступала нямецкаму карабіну. Танк Т-34 меў невялікі шанц падысці на адлегласць выстралу да нямецкага танка тыпу „тыгр".

[шырэй ☞ 4]

## Дзеля дабра беларусаў

— Не, у першую „Салідарнасць" я ўступіў не таму, што мяне праследавалі. Проста я лічыў, што гэта будзе слушная справа. У Гайнаўцы ў яе ўступіла нямала беларусаў. Аднак, у пэўны момант, пад канец 1981 года, мы пачалі адчуваць, што там для нас штораз менш месца.

[інтэрв'ю з Міколам Бушко ☞ 5]

## Беларускі вечар у Варшаве

Аўтарскі вечар Алены Анішэўскай і Дзмітрыя Шатыловіча, названы „беларускім вечарам", адбыўся ў Варшаве. Невялікая зала бібліятэкі ледзь памясціла каля 40 асоб пераважна знаёмых з колішніх частых сустрэч у сценах беларускага клуба.

[спатканне ☞ 8]

## Памерла вучаніца Агрыпіхі

Хаця ўлады неахвотна ставіліся да літоўскага лекарскага дыплома Надзеі Бітэль-Дабжынскай, аднак прынялі яшчэ раз экзамены і ўзялі на працу ў акадэмію. Усё сваё жыццё прысвяціла яна медыцыне. У лячэнні часта прымяняла народныя метады: зёлкі, замовы. Гэтай альтэрнатыўнай медыцыны навучылася яна яшчэ ў дзіцячыя гады, ад ведзьмы Агрыпіхі, у Перлавай Горцы. Часта ведаючы сакрэты натуры ратавала людзям жыццё ці аблягчала хваробу.

[успамін ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Смешны крымінал

2 сакавіка ў памяшканнях Гродзенскага грамадскага аб'яднання „Ратуша" і газеты „Пагоня" прадстаўнікамі праваахоўных служб былі праведзены вобыскі. Нагодай сталі крымінальныя справы, узбуджаныя пракуратурай Ленінскага раёна Гродна.

У 14 гадзін дня ў памяшканне аб'яднання „Ратуша" ў суправаджэнні некалькіх міліцыянераў і людзей у цывільным завітаў следчы раённай пракуратуры спадар Танкевіч. Ён паведаміў старшыні аб'яднання Аляксандру Мілінкевічу, што яго ведамства ўзбудзіла крымінальную справу па факце знявагі гонару і годнасці кіраўнікоў Рэспублікі Беларусь і прадставіў ордэр на вобыск. Як сведчыць пратакол вобыску, ён праводзіўся з мэтай „отыскания документов и карикатур, которые задевают честь и достоинство руководителей Республики Беларусь".

Падчас вобыску былі канфіскаваны 65 зборнікаў карыкатур пад назвай „У Пагоню" гарадзенскага мастака Алеся Сурава, якія пару тыдняў назад былі выдадзены „Ратушай". Героем смешных малюнкаў з'яўляецца Аляксандр Лукашэнка. Усе яны на працягу 1996-1997 гадоў былі надрукаваны ў газеце „Пагоня". Пра іх мастацкую якасць можа сведчыць той факт, што міліцыянеры, якія канфіскоўвалі „злачынныя" зборнікі, разглядаючы карыкатуры не маглі ўтрымацца ад смеху.

Спадар Танкевіч таксама забраў у „Ратушы" некаторыя іншыя паперы, у тым ліку брашуру Сямёна Шарэцкага „Трагедыя Беларусі".

Калі ў аб'яднанні „Ратуша" пракурор канфіскоўваў смешныя малюнкі, у рэдакцыю газеты „Пагоня" прыйшоў следчы ўпраўлення ўнутраных спраў Ленінскага раёна Савушкін. Ён прывёў з сабой каля дзесяці чалавек, якія пачалі шукаць „агитационную литературу". Нагодай для пошукаў, як і ў выпадку з „Ратушай" стала ўзбуджэнне крымінальнай справы, але ўжо за спробу захопу ўлады. Рэдакцыя газеты была пазбаўлена некалькіх карыкатур розных аўтараў, некалькіх лістовак пяцігадовай даўнасці і ліста аднаго з чытачоў „Пагоні".

У той самы дзень вобыскі адбыліся на кватэры Алеся Сурава і ў памяшканні лялечнага тэатра, дзе ён працуе мастаком.

**Зміцер Кісель**

## Навіны з Брэста

**Пратэсты супраць саюза Беларусі і Расіі** носяць разнастайныя формы. У Пінску быў наладжаны пікет, які закончыўся арыштам трох чалавек. У Брэсце ў Расійскае консульства быў перададзены пахавальны вянок з надпісам „Союзу Беларуси и России. Вечная память". Консул Барыс Радзімаў вымушаны быў прыняць „падарунак". Некалькі дзён пазней консульства наведалі прадстаўнікі брэсцкай грамадскасці і зачыталі тэкст звароту да дыпламатычнага прадстаўніцтва Расіі ў Беларусі аб недапушчальнасці парушэння канстытуцыйных і міжнародных праву. Самая папулярная сярод брэсцкай дэмакратычнай моладзі форма пратэсту — графіта. І калі надпісы „Беларусь ў Эўропу — Лукашэнка ў ж...у" хутка знішчаюцца дворнікамі, дык надпіс-кліч усіх беларусаў свету не так лёгка знішчыць, бо ён з'яўляецца ў самых неверагодных месцах. Ад нядаўна гэтыя словы красамоўна сустракаюць усіх, хто перасякае мяжу з Польшчы — на каменным плоце, адсякаючым чыгунку ад нейтральнай зоны, чырвоным па белым паўметровымі літарамі выведзена „Жыве Беларусь!"

22 лютага **ў Брэсце арыштаваны быў сябра Хельсінскага камітэта і арганізацыі „Вясна-96" Уладзімір Вялічкін**, які ў цэнтры Брэста правёў пікетаванне ў падтрымку правядзення выбараў прэзідэнта і прытым трымаў плакат „Не — саюзу Беларусі і Расіі!" Замест пазбаўлення волі У. Вялічкін абраў вялікі штраф. Свабода слова на Беларусі сёння каштуе не толькі грошай.

**У мястэчку Дамачаве пад Брэстам прадстаўнікі англійскага правасуддзя** ўпершыню ў сваёй гісторыі правялі пасяджэнне за межамі Вялікабрытаніі. Тут прайшлі слуханні сведак па злачынствах, якія ўчыніў Антон Саванюк — былы камендант мястэчка ў 1942 годзе. Апытана 376 чалавек, 16 з якіх наведалі Лондан. 75-гадовы Хвёдар Зань і Іван Баглай засведчылі, што Саванюк расстраляў з аўтамата паўтара дзесятка яўрэек і маленькую яўрэйскую дзяўчынку. Дамачаўцы аднагалосна выказваюцца за смяротны прысуд. Аднак падобна на тое, што брытанскі суд пакарае Саванюка пажыццёвым пазбаўленнем волі.

**Ірына Лаўроўская**

## Цэнтрвыбаркам пакараны

1 сакавіка ў Мінску адбыліся суды над сябрамі Цэнтральнай Выбарчай Камісіі па выбарах прэзідэнта, якія былі затрыманы міліцыяй 25 лютага.

Старшыню ЦВК Віктара Ганчара даставілі ў гарадское аддзяленне міліцыі (ГАМ), дзе над ім адбыўся суд з прымяненнем фізічнай сілы. Калі на вул. Кісялёва да яго падышлі міліцыянеры і прапанавалі добраахвотна прыбыць у ГАМ, ён адмовіўся, сеў у аўтамабіль і спрабаваў ад'ехаць. Але ягонае „БМВ" адразу заблакавалі міліцэйскія машыны. Выбіўшы шкло, міліцыянеры гвалтам выцягнулі Ганчара з-за руля і адвезлі на суд. Старшыня ЦВК быў асуджаны на 10 сутак арышту за „правядзенне незаконнага сходу".

Сябры ЦВК у гэты час сабраліся ў... аўтобусе і здолелі правесці запланаванае раней пасяджэнне, на якім зацвердзілі ініцыятыўныя групы па збору подпісаў за кандыдатаў у прэзідэнты. (Гэтымі кандыдатамі сталі старшыня БНФ Зянон Пазьняк і былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір. Каб яны ўдзельнічалі ў выбарах на законных падставах, за іх кандыдатуры павінна быць сабрана не менш 100 тысяч подпісаў).

Пасля ўдзельнікі пасяджэння таксама былі асуджаны. Сакратар ЦВК Барыс Гюнтар, члены камісіі Анатоль Гурыновіч і Сяргей Абадоўскі атрымалі па 5 сутак арышту. Астатніх суддзі прыгаварылі да шматмільённых штрафаў.

**(зк)**

## Род ваяроў, святароў і паэтаў

22 лютага гродзенская моладзь адзначыла 130-я ўгодкі з дня нараджэння маці Максіма Багдановіча Марыі Апанасаўны Багдановіч-Мякоты.

Хлопцы і дзяўчаты прыйшлі на старыя праваслаўныя могілкі да месца апошняга спачынку Марыі Апанасаўны, каб ушанаваць памяць пра жанчыну, якая нарадзіла Беларусі вялікага паэта. Каля помніка маці Максіма адбылася цёплая, душэўная імпрэза.

Перад прысутнымі выступіла Данута Бічэль, якая на працягу шмат гадоў нястомна кіравала музеем Максіма Багдановіча ў Гродне і па праву можа лічыцца спадкаемцам сям'і паэта. Зараз, калі ўлады гвалтоўна пазбавілі Дануту Янаўну працы, яна не спыняе сваёй дзейнасці, адкрывае людзям усе новыя звесткі пра Багдановічаў. Моладзь, якая сабралася на святкаванне юбілею маці паэта, даведалася ад спадарыні Бічэль пра слаўны радавод Марыі Багдановіч-Мякоты.

Супрацоўнік нацыянальнага архіва Беларусі Зміцер Яскевіч даслаў Дануце Янаўне вынікі сваіх пошукаў пачатку роду Мякотаў. Ен высветліў, што ўпершыню пра продкаў маці Багдановіча ў пісьмовых дакуметах узгадвалася ў 1637 годзе. Кароль Уладзіслаў IV за заслугі на полі бою выдзяліў тады жаўнеру гусарскай харугвы Вялікага княства Літоўскага Эльяшу Мякоце 800 гектараў зямлі ў Ваўкавыскім павеце. З цягам часу нашчадкі распрадалі спадчыну па слаўным дзеду і сям'я перабралася на Браслаўшчыну.

У XVIII-XIX стагоддзях мужчыны з роду Мякотаў прысвячалі сябе служэнню Богу. Дзеды Марыі Багдановіч-Мякоты былі грэка-каталіцкімі святарамі. А яе маці паходзіла з сям'і праваслаўнага святара. Ці не такая спадчына надала вялікую духоўнасць творчасці Максіма Багдановіча?

Выкладчыца Гродзенскага універсітэта Ала Петрушкевіч распавяла пра велізарную заслугу жанчыны-маці перад Беларуссю, якая ахвяравала сям'і сваё жыццё і гэтым заслужыла, што праз сто гадоў пасля смерці да яе магілы прыходзяць людзі.

Напрыканцы імпрэзы маладыя паэты Анатоль Брусевіч і Валеры Руселік прачыталі некалькі сваіх вершаў, прысвечаных Багдановічу і Беларусі.

**Зміцер Кісель**

## Атрад сфарміраваўся ў баі

26 лютага ў Гродне адбылася бойка прадстаўнікоў дэмакратычных маладзёжных арганізацый з фашыстамі. Вынікам былі пабітыя шыбы ў штаб-кватэры БНФ і зламаныя насы ў паслядоўнікаў расейскага імперыялізму.

Вечарам гэтага дня ў цэнтры Гродна была заўважана група падпіўшых падлеткаў, адзін з якіх быў апрануты ў форму рускіх фашыстаў з арганізацыі РНЕ (Руское Национальное Единство). Пра гэта даведаліся сябры дэмакратычных маладзёжных арганізацый, якія на той час сабраліся для размовы ў штаб-кватэры БНФ. Яны адразу пабеглі шукаць маладых нацыстаў, каб растлумачыць, што фашыстам з'яўляцца на вуліцах Гродна не варта. Але актывіст РНЕ са сваімі сябрамі недзе знік. Замест яго маладыя беларускія адраджэнцы затрымалі мясцовага скіна і прывялі ў штаб-кватэру БНФ. Хлопцы вырашалі даведацца, чаго хочуць маладыя людзі з голенымі галовамі.

Скін, які назваў сябе рускім, сказаў, што РНЕ гэта іх галоўны саюзнік, што трэба аб'яднацца з Расіяй і г.д. Гледзячы на тое, што твар прыхільніка панславізму выразна меў мангольскія рысы, яго жартаўліва папярэдзілі, што ён можа мець непрыемнасці ад сваіх саюзнікаў за „не чисто русский вид". Затым адпусцілі, не крануўшы нават пальцам.

Пасля маладыя людзі, якіх у штаб-кватэры БНФ сабралася каля дваццаці чалавек, у тым ліку амаль палова дзяўчат, працягнулі сваё пасяджэнне. Праз некалькі хвілін, у той самы момант, калі вядучы прапанаваў вырашыць, якім чынам арганізаваць у Гродне атрад антыфашыскай абароны, з трэскам пачалі вылятаць шыбы ў вокнах. У памяшканне ўварвалася каля дзесяці хлопцаў з голенымі галовамі ў скураных куртках і пачалі бойку. Чацвёра з іх мелі свастыкі на рукавах. Але напаўшыя выразна не разлічылі свае сілы. Праз некалькі імгненняў яны ўжо круціліся на падлозе ратуючыся ад удараў. Затым кінуліся ўцякаць. Прыехалі міліцыянеры. Яны затрымалі аднаго фашыста, які на сваю бяду вырашыў схавацца ад маладафронтаўцаў і іх сяброў у памяшканні аўтамабільнай школы, якая месціцца ў адным будынку з штаб-кватэрай БНФ. Але небарака, відаць, не звярнуў увагі, што яго сябры пабілі вокны і ў аўташколе, супрацоўнікам якой гэта, зразумела, не спадабалася і міліцыя па сутнасці выратавала „звышчалавека" ад дадатковых пабояў.

Што міліцыя зрабіла з затрыманым не вядома. У афіцыйных зводках упраўлення ўнутраных спраў Гродзенскай вобласці бойка ў штаб-кватэры БНФ не адзначана.

**(зк)**

## Не любіш фашыстаў — у турму

27 лютага ў Мінску адбылася антыфашысцкая акцыя апазіцыі пад лозунгам: „Не — фашызму на беларускай зямлі! Не — рускаму фашызму!" Арганізатарамі мерапрыемства былі праваабарончы цэнтр „Вясна-96", „Хартыя-97" і Беларускі Хельсінскі камітэт.

На мітынгу, які згуртаваў больш трох тысяч чалавек, гучалі словы абурэння па прычыне актывізацыі апошнім часам на Беларусі расейскай фашысцкай арганізацыі Русское Национальное Единство. Прамоўцы казалі пра небяспеку, якую нясе за сабой спрыянне ўладных структур рускім нацыстам, спробу рэжыму задушыць апазіцыю з дапамогай РНЕ.

На чыім баку ўлады стала відавочна пасля заканчэння антыфашысцкай акцыі, калі міліцыя пачала арыштоўваць яе ўдзельнікаў. І гэта нягледзячы на тое, што шэсце і мітынг былі дазволены гарадскімі ўладамі. Усяго было затрымана каля дзесяці чалавек. А за Алесем Бяляцкім — старшынёй праваабарончага цэнтра „Вясна-96", міліцыянеры наладзілі сапраўднае паляванне. Яго спрабавалі затрымаць адразу пасля мітынгу, затым яго шукалі ў штаб-кватэры БНФ, але ён змог беспераШкодна адтуль выйсці. Нарэшце яго схапілі на вуліцы. Суд адбыўся 1 сакавіка.

Алеся Бяляцкага абвінавацілі ў тым, што падчас шэсця людзі выйшлі на праезджую частку праспекта Скарыны. Усе доказы, што ў некаторых месцах тратуары былі перакрыты гарадскімі службамі з-за небяспекі падзення з дахаў ледзяшоў, што дэманстранты не перашкаджалі аўтамабільнаму руху, на суд не падзейнічалі. Не памагло нават пацвярджэнне вышэйзгаданых фактаў міліцыянерамі. Алесь Бяляцкі быў асуджаны на дзесяць сутак арышту. Суды над астатнімі затрыманымі пасля антыфашысцкай акцыі адтэрмінаваны.

**(зк)**

# Дазвол на памяць


Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Сённяшні выгляд помніка.

[1 ☞ працяг]
на правядзенне эксгумацыі. У чарзе чакаюць справы следства і фінансавай рэкампенсаты за смерць 80-ці асоб, матэрыяльныя патраты, а таксама адабранне ветэранскіх правоў удзельнікам крыжовага маршу „Бурага", якія:

— 29.01.1946 г. забілі 14 асоб і спалілі вёску Залешаны,

— 29.01.1946 г. забілі 2 асобы і спалілі вёску Волька-Выганоўская (гм. Кляшчэлі),

— 31.01.1946 г. забілі 30 вазакоў у лесе непадалёк Пухал-Старых (гм. Браньск),

— 31.01.1946 г. забілі 1 асобу з вёскі Свірыды,

— 2.02.1946 г. забілі 24 асобы, 8 ранілі і спалілі вёску Зані,

— 2.02.1946 г. забілі 9 асоб, 3 ранілі і спалілі вёску Шпакі.

На сённяшні дзень Камітэт памардаваных вазакоў чакае рашэння Міністэрства ўнутраных спраў, якое з увагі на складанасць справы (патрэбнае адабрэнне Рады аховы помнікаў змагання і пакуты) паабяцала даць адказ да канца сакавіка гэтага года.

**Ганна Кандрацюк**

# За вашу і нашу свабоду!

[1 ☞ працяг]
свабода слова і сумлення, пашана роднай культуры. Унія маладых лічыць, што іх аднагодкі ў Беларусі пазбаўлены гэтых каштоўнасцей і таму патрабуюць дапамогі.

„З увагі на польска-беларускае суседства, як і на падобную гісторыю абедзвюх краін, перад нашымі дзяржавамі стаяць падобныя заданні, падобныя грамадскія і гаспадарчыя праблемы. Таму патрэбнае ўсебаковае разумнае супрацоўніцтва краін нашага рэгіёна. Прытым патрэбны шырокі грамадскі дыялог, не толькі адных палітыкаў, але з удзелам грамадства, моладзі. Нашай маніфестацыяй хочам сказаць сваё слова ў гэтай дыскусіі. Выказваем такім чынам наш погляд на справу плюралізму ў беларускай дзяржаве, якога, здаецца, не дапускаюць тамашнія ўлады. Выказваем трывогу станам дэмакратыі ў суседняй дзяржаве. Таму, што не хочам, каб у дзяржаве, з якой мяжуе Польская Рэч Паспалітая праходзілі вядомыя нам з гісторыі падзеі. Гэта дрэнны прагноз для будучыні Беларусі і ўсяго нашага рэгіёна Еўропы", — чытаем у заяве Уніі маладых для прэсы.

Пакуль вядзецца рэгістрацыйны працэс, Унія маладых дзейнічае пры Цэнтры грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь. Карыстаецца яго дапамогай: памяшканнем, аргтэхнікай і вопытам у грамадскай дзейнасці. Старшынёй Уніі маладых з'яўляецца палітычны ўцякач з Беларусі Ян Абадоўскі, цяпер студэнт Беластоцкага політэхнічнага інстытута.

„Наша дэманстрацыя была актам салідарнасці з Маладым фронтам, членаў і сімпатыкаў якога збівалі ў Мінску ў дзень святога Валянціна, калі тыя перад пасольствамі еўрапейскіх дзяржаў прызнаваліся ў каханні да Еўропы", — сказаў на прэс-канферэнцыі Ян Абадоўскі.

Кіраўніцтва Уніі маладых з Беластока заявіла, што рыхтуе дыскусію на тэму вышэйшага школьніцтва ў Польшчы і Беларусі. Як адну з мэтаў дзейнасці арганізацыя лічыць дапамогу беларускім студэнтам, якіх па палітычных прычынах выкідаюць з універсітэтаў.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота Ганны Кандрацюк*

* * *

*Дажыліся. Маладыя палякі дэманструюць у цэнтры Беластока пад бел-чырвона-белымі сцягамі! Заступаюцца за гонар беларусаў. Але бароняць і гонар палякаў у Беластоку. Падарваны палітычнымі і духоўнымі аўтарытэтамі.*

*Няхай сабе нашы людзі, убачыўшы на Ліповай бел-чырвона-белыя сцягі ўцякаюць на другі бок вуліцы. Няхай глухімі застаюцца ваявода Крыстына Лукашук і архібіскуп Станіслаў Шымэцкі. Усё-ткі, дажыліся неверагоднага!*

# Гімназіі ў Гайнаўцы

Хаця па прапанове дырэктара II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы Яўгена Сачко Управа горада ўжо намнога раней вырашыла, што ў горадзе патрэбная таксама і гімназія пры белліцэі, то радныя БНВК не былі ўпэўнены ці ў час галасавання на пасяджэнні Рады падтрымае іх у гэтым дастатковая колькасць радных ад іншых клубаў. Неабходнай аказалася падтрымка саюзніка — радных СЛД.

Хаця IV сесія гарадской рады ў Гайнаўцы, якая адбылася 25 лютага 1998 года, тычылася не толькі гімназій, аднак дыскусія наконт школьнай рэформы выклікала найбольшае зацікаўленне. Прыйшлі на пасяджэнне не толькі дырэктары падставовых школ, якіх рэформа тычыцца непасрэдна, але некаторыя настаўнікі і жыхары горада. Управа прапанавала стварыць у Гайнаўцы тры гімназіі: у школе н-р 1 (яна будзе ліквідавацца), н-р 6 (дзе адпаведныя ўмовы для працы падставовай школы) і ў белліцэі (дзе ўзнік бы Комплекс сярэдніх школ з беларускай мовай навучання).

У ходзе дыскусіі радныя АВС „Салідарнасць" пераконвалі, што гімназія пры белліцэі зусім непатрэбная, паколькі павету, які фінансуе сярэдняе школьніцтва трэба будзе перадаць з гарадскога бюджэту дадатковыя сродкі. Паводле іх, гораду дастаткова двух гімназій у школах н-р 1 і 6.

— Канцэпцыя трох гімназій у горадзе — гэта найлепшая прапанова з усіх, якія мы разглядалі. Што тычыцца гімназіі пры белліцэі, то за вучнямі пойдзе ў павятовы бюджэт толькі асветная субвенцыя. У гэтым годзе атрымліваем мы 2024 зл. субвенцыі на аднаго вучня і гэтых сродкаў з Міністэрства адукацыі замала на ўтрыманне гарадскіх школ. 88% гэтых грошай ідзе на зарплаты і падаткі ад іх, а толькі 12% на ўтрыманне школ. Са сваіх сродкаў часткова фінансуем ацяпленне будынкаў, іх рамонты і многа іншага, — сказаў бурмістр Анатоль Ахрыцюк. — Калі мы перадамо ў павет толькі асветную субвенцыю, нічога не страцім.

Паявіліся таксама меркаванні, што гімназія пры сярэдняй школе паўплывае на змяншэнне колькасці настаўнікаў у падставовых школах.

— Рэформа асветы, якая вымушае стварэнне гімназіяў, не абмяжоўвае месц працы ў падставовых школах, але наадварот, дае дадатковыя магчымасці, бо вучні, якія вучыліся ў першых класах сярэдніх школ, у будучыні будуць вучыцца ў трэціх класах гімназій, — кажа дырэктар белліцэя Яўген Сачко. — Мы палічылі, што ў падставовых школах колькасць аддзелаў павялічыцца на 14. Гэта будзе дадатковая праца для настаўнікаў дзякуючы абмежаванням у сярэдніх школах. Калі трэба будзе звальняць настаўнікаў, то толькі па прычыне меншай колькасці дзяцей у падставовых школах.

Старшыня Гайнаўскага аддзела БГКТ Міхал Голуб звяртаў увагу, што навучанне беларускай мовы ў гайнаўскіх падставовых школах адбываецца найчасцей пасля іншых заняткаў, чаго не было б у гімназіі пры белліцэі. Старшыня Клуба радных БНВК Міхал Байко заклікаў, каб галасаваць за стварэнне безакруговай гімназіі пры белліцэі, звяртаючы ўвагу на клопаты з навучаннем беларускай мовы ў падставовых школах. Напомніў таксама, што была прапанова навучання беларускай мовы ў школе н-р 6 на прынцыпе безакруговай школы, але нічога не атрымалася. Гаварыў, што толькі заняткі па беларускай мове для ўсіх вучняў могуць даць станоўчыя вынікі.

Радны АВС Веслаў Раковіч паставіў прапанову, каб справу стварэння гімназій увогуле зняць з парадку дня, але прапала яна ў галасаванні. Другое галасаванне датычыла прапановы стварыць толькі дзве гімназіі ў школе н-р 1 і 6 (якую падтрымала 9 радных, 14 было супраць, а 2 ўстрымалася). Трэцяе і апошняе галасаванне адобрыла канцэпцыю Управы горада аб трох гімназіях — з гімназіяй пры Комплексе сярэдніх школ з беларускай мовай навучання. Апошнюю прапанову падтрымала 14 радных, 6 было супраць, а 5 устрымалася ад галасавання (у гэтым ліку былі і радныя ад СЛД).

Каб стварыць Комплекс сярэдніх школ з беларускай мовай навучання, патрэбная яшчэ падтрымка ў Радзе павета, які будзе фінансаваць школу. Ведаючы прыхільнасць старасты Уладзіміра Пятрочука і многіх радных можна спадзявацца, што Рада павета адобрыць стварэнне беларускай гімназіі, якая пачне працаваць ужо ад першага верасня 1999 года.

**Аляксей Мароз**

# IV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць IV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.

**Тэматыка**

Арганізатары не абмяжоўваюць тэматыкі дасыланых твораў. У конкурсе будуць разглядацца працы на беларускай мове.

**Прынцыпы ўдзельніцтва**

1. Конкурс праводзіцца ў трох узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ,

— II група: моладзь сярэдніх школ,

— III група: дарослыя (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

2. У рамках груп конкурс праводзіцца ў двух катэгорыях: паэзіі і прозы.

3. Конкурсныя працы, надрукаваныя на машынцы або разборлівы рукапіс у трох экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас:

**Redakcja „Niwy"**
**ul. Zamenhofa 27**
**15-959 Białystok**

з прыпіскай на канверце: IV Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

4. Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такімі нумарам узроставай групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

5. На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

6. Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**Тэрміны**

1. Тэрмін дасылання конкурсных прац мінае 16 мая 1999 г. (вырашае дата паштовага штампа).

2. Конкурс завершыцца да 30 чэрвеня 1999 г.

3. Аб'яўленне вынікаў і ўручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел. Прадугледжваецца таксама аўтарская сустрэча з лаўрэатамі.

**Узнагароды**

1. Арганізатары прыдбалі грашовыя і рэчавыя ўзнагароды. Допускаюцца таксама ўсялякія іншыя ініцыятывы арганізацый і прыватных асоб з мэтай павелічэння колькасці ўзнагарод. Арганізатары будуць садзейнічаць такім ініцыятывам.

2. Арганізатары ўстанаўліваюць 1-3 узнагароды для найлепшых дэбютантаў. Аб падзеле і вартасці астатніх узнагарод рашае ўстаноўленае арганізатарамі журы.

3. Журы можа не выкарыстаць усяго фонду ўзнагарод.

4. Арганізатары прадугледжваюць магчымасць публікацыі ўзнагароджаных твораў (без права аўтараў на ганарары) на старонках „Нівы", у агульнапольскім друку і па радыё.

5. Як дадатковая ўзнагарода прадугледжваецца выданне асобнага зборніка ўзнагароджаных і дадаткова вылучаных цераз журы прац.

**Заключныя заўвагі**

1. Працы, якія не адпавядаюць правілам конкурсу, не будуць разглядацца.

2. У справах, якія вынікаюць з супярэчлівага тлумачэння правілаў, канчатковае рашэнне выносяць арганізатары ў паразуменні з журы.

3. Сакратарыят конкурсу змяшчаецца ў:
Redakcja „Niwy"
ul. Zamenhofa 27
15-959 Białystok 2
skr. poczt. 149
tel. 743 50 22

Тут можна атрымаць дэталёвую інфармацыю.

Запрашаем прыняць удзел у конкурсе і жадаем поспехаў. **Арганізатары**

# Вайна і перамога

23 лютага ў Беларусі і Расіі адзначаўся Дзень абаронцы Бацькаўшчыны. Раней гэта было свята Савецкай Арміі, устаноўленае для ўшанавання першай перамогі чырвонаармейцаў над немцамі ў 1918 годзе. Пасля 1945 г. савецкая прапаганда стварыла вобраз II сусветнай вайны, дзе насупраць захопніцкім, зверскім фашыстам бараніць Бацькаўшчыну і сусветную цывілізацыю стала армія рабочых і сялян пад кіраўніцтвам самога Сталіна. У савецкай літаратуры, кінематаграфіі, мастацтве бачым волю змагання і адвагу салдатаў і афіцэраў, а таксама рацыяналізм і глыбокую гуманнасць палітычнага кіраўніцтва краіны. Такая легенда пра вайну і пераможную савецкую армію была закадавана ў свядомасці грамадства. Старэчы, абвешаныя медалямі, сталі сімвалам гераізму і нечага амаль містычнага. Ніхто толькі не прабаваў ім сказаць чаму на аднаго забітага салдата Вермахта было забітых сем чырвонаармейцаў. Чаму перамога патрабавала ад народаў савецкай імперыі амаль 9 мільёнаў ахвяр на фронце, чаму амерыканцы змагаючыся супраць немцаў і японцаў патрацілі толькі 300 тысяч салдатаў. Ніхто нават не асмеліўся паставіць пытання, ці ўсе ахвяры з савецкага боку былі неабходныя. Прапаганда ў гэтай справе не пакідала сумнення.

У мінулым годзе, дзякуючы намаганням выдавецтва „Наша Ніва", паказалася на Беларусі кніжка Васіля Быкава *Сцяна**. Пачынаецца яна з эсэ *Вайна і перамога*, у якім аўтар супрацьпаставіў міфалогіі пра савецкую армію з часу II сусветнай вайны рэчаіснасць, якую сам перажыў і бачыў сваімі вачамі.

Быкаў піша як камандзіры кідалі ў атаку палкі і дывізіі без артылерыйскай падрыхтоўкі, без запасу боепрыпасаў для салдат. Без ніякага сэнсу пасылалі на смерць тысячы салдат. Нормай стала ў савецкай арміі „разведка боем", калі для вызначэння агнявых пазіцый ворага пасылаліся ў атаку вялікія атрады, загадзя спісваючы іх на затрату. Баявыя статуты, створаныя на падставе вопыту грамадзянскай вайны зусім не адпавядалі характару новай вайны, але пару месяцаў камандзіры ад страху перад сваімі начальнікамі трымаліся недарэчных інструкцый, прыводзячы сотні тысяч салдат у страшлівую нямецкую няволю, ці проста на смерць падчас спробы абароны пазіцый, якія асталіся за лініяй фронту.

Савецкая прапаганда падкрэслівала асабліва высокую якасць айчыннай зброі. Тым часам, — піша Васіль Быкаў, — наш слаўтуны ППШ па ўсіх параметрах саступаў „шмайсэру". Вінтоўка канструкцыі Мосіна з XIX стагоддзя саступала нямецкаму карабіну. Танк Т-34 меў невялікі шанц падысці на адлегласць выстралу да нямецкага танка тыпу „тыгр".

Савецкім наватарствам, — піша беларускі пісьменнік, — была мабілізацыя жанчын на вайну. Якая была карысць пасылаць пад агонь маладых, малапрыстасаваных да нягодаў баявога жыцця дзяўчат? — пытаецца. Шмат жанчын траплялі ў штабы, тылавыя ўстановы ў якасці сакратарак, сувязістак, а на практыцы ўпрыгожвалі яны час старэйшым камандзірам і палітычным афіцэрам.

Заклік, з якім чырвонаармейцы ішлі ў атаку: „За Родину, за Сталина!" гэта прапагандысцкая выдумка, вядомая толькі са старонак вайсковага друку. „Сярод выбухаў і кулямётна-аўтаматнай страляніны цяжка было ўчуць уласны голас, ня тое што нейчы недарэчны, мала адпаведны абставінам, мітынговы крык". Іншая справа, што быў выразны загад ісці ў атаку з іменем Сталіна на вуснах.

Пятнаццаць-дваццаць кіламетраў ад лініі фронту ўсе ляскі запоўнены былі ўсялякімі штабамі. Сотні афіцэраў раіліся, званілі, узгаднялі, камандавалі, загадвалі наступаць. Тыя, што наступалі на фронце найчасцей не атрымлівалі ніякіх медалёў ні званняў герояў Савецкага Саюза. Іх закопвалі ў брацкіх магілах. Паўшэнні, прызнанне і ўзнагароды чакалі тых, што дваццаць кіламетраў ад фронту загадалі атакаваць пазіцыі ворага. Вопытныя афіцэры, маючы перад сабой замацаваныя пазіцыі немцаў, калі атрымлівалі недарэчны загад атакаваць адказвалі: „Так есть товарищ камандир" і нічога далей не рабілі. Ведалі, што з тылу іх ніхто не праверыць і што нейкі час інфармавалі па тэлефоне, што пастаянна пад агнём ворага прабуюць ісці наперад. У штабах адзначалі на картах стан фактычны, пазіцыі нямецкія былі такія як раней. Больш дысцыплінаваныя афіцэры падымалі салдат у атаку. Вынік быў такі самы, толькі на полі, раздзяляючым савецкія і нямецкія пазіцыі ляжалі трупы атакуючых.

Часта вярхоўнае савецкае камандаванне загадвала атакаваць толькі таму, што набліжалася гадавіна Кастрычніка, дзень Чырвонай Арміі, дзень нараджэння Сталіна, Леніна ці іншага бальшавіцкага прарока. Такую падзею саветы адзначалі найчасцей сотнямі тысяч дарэмна патрачаных салдат.

Найгорш было, — піша Васіль Быкаў, — тым афіцэрам, якім удалося вырвацца з палону ці акружэння. Ставалі яны зразу падазронымі. Былі пад пастаянным кантролем „Смерша" — вайсковай паліцыі, іх як першых пасылалі на „разведку боем". Невялікі шанц перажыць вайну мелі смелыя і адкрытыя афіцэры, якія з прызнаннем выказваліся пра нямецкую зброю, тактыку ці шчыра заяўлялі тое, што думаюць пра НКУС. Найчасцей знікалі яны бясследна.

Летам 1942 г. Сталін выдаў сваёй арміі загад: „Ні кроку назад!" Вайсковыя трыбуналы пачалі масава расстрэльваць камандзіраў, якія не стрымалі атаку Вермахта. Найхутчэй тады павышаліся па службе афіцэры карных органаў, якіх за расстрэльванне калег шчодра ўзнагароджвалі. „Цяпер тыя людзі, — піша Быкаў, — героі нароўні з іншымі несумненнымі героямі, і мала хто здагадваецца, якім чынам заслужаны іхныя ўзнагароды. Асаблівa прыкрытыя распаўсюджанай цяпер міфалагемай: прайшлі вайну „ад званка да званка". У „Смершы" ці ў трыбунале можна было паспяхова прайсці не адну вайну".

Выданне *Сцяны* не было папярэджанае працай ніякай цэнзуры. Васіль Быкаў апісаў вайну на ўсходнім фронце згодна са сваім бачаннем тае эпохі. Шчырасць аўтара можа шакіраваць непадрыхтаванага да такога ўспрымання свету беларускага чытача. Але праўда пра II сусветную вайну раней ці пазней стане агульнавядомая таксама на Беларусі.

**Яўген Мірановіч**

* В. Быкаў, *Сцяна*, Менск 1997, выд. „Наша Ніва", сс. 384.

# Беларусы ў рэнесансным Кракаве

Некалькі гадоў занялі мне пошукі (галоўным чынам у кракаўскіх касцельных крыніцах) слядоў прысутнасці грамадзян Вялікага княства Літоўскага ў колішняй сталіцы Польшчы ад канца XIV ст. да 1579 г. (года заснавання Віленскай акадэміі). У XVI ст. насельніцтва Кракава налічвала 20 тысяч жыхароў, большасць якіх, амаль 50%, складалі палякі. Апрача іх у сталічным горадзе жылі немцы, яўрэі (пераважна ў адміністрацыйна асобным горадзе Казімежы), італьянцы і іншыя.

Па маіх ацэнках, у тадышнім Кракаве пражывала прыблізна 300-500 выхадцаў з Вялікага княства Літоўскага. Сярод гэтых „Lithuani" больш-менш палову складалі аўтэнтычныя літоўцы: студэнты, рамеснікі (у асноўным кушнеры), гандляры, слугі, ксяндзы. Рэшту складалі беларусы (паводле маіх ацэнак — 20% гэтай групы), нямецкія і польскія мяшчане ды ксяндзы, украінцы з Валыні або Кіеўшчыны, італьянскія святары і іншыя. Мабыць, літоўцы мелі свае прапаведзі ў касцёле св. Марка па вул. Слаўкоўскай. З упэўненасцю можна сказаць, што царквы ў той час у Кракаве не было. Наогул праваслаўным беларусам цяжэй было атрымаць гарадское грамадзянства чым каталіцкім літоўцам.

У сталіцы Літвы Вільні першай нацыяй у першай палове XVI ст. былі беларусы, але адсюль у Кракаў прыбывалі галоўным чынам немцы (напрыклад, прадстаўнікі вядомай ва ўсёй Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў сям'і Гоз'юшаў, з якой выводзіўся кардынал Станіслаў — другі ў гісторыі „польскі" кандыдат на папскі прастол; трэцім быў Караль Вайтыла), літоўцы (напрыклад, у 1500 г. нейкі „Вайшко", які гандляваў собалямі) і палякі (напрыклад, сваякі ўраджэнца Мазовіі, аўтара „Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі" Мацея Стрыйкоўскага). З Бярэсця бясспрэчна прыбывалі не толькі беларусы, але і немцы ды палякі. З Драгічына пэўна ў асноўным прыязджалі палякі, але ў пачатку XV ст. адсюль прыбыў таксама Гедымінавіч Ян Вайдут, князь літоўскі, другі рэктар Кракаўскага універсітэта. Мяшчане, якіх называлі рускімі або рускамі, выводзіліся пэўна з-па-за Вялікага княства Літоўскага, з раскінутай паміж Кроснам і Каменцам-Падольскім г.зв. Кароннай Русі, якую Казімір Вялікі далучыў да Польшчы ўжо ў палове XIV ст.

Самым багатым кракаўскім грамадзянінам беларускага паходжання ў пачатку XVI ст. быў Ян (Іван) Сапега (Сопія) — пачаткова найвышэйшы сакратар Вялікага княства, а пасля маршалак літоўскі і віцебскі ваявода (памёр каля 1517 г.), які ў сталіцы Польшчы меў свой дом па вуліцы св. Анны. Мабыць, беларускае паходжанне мелі яшчэ прынятыя „да права" ў 1531 г. муратар (архітэктар) Матыс Судэк і ў 1535 г. — гандляр Мікалай Лашчынскі з-пад Драгічына.

У XV ст., паводле літоўскага вучонага В. Біржышкі, 92% студэнтаў з тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага вучыліся ў Кракаўскай акадэміі. Мабыць, першы „літоўскі" студэнт паходзіў з Бельска-Падляшскага (1401 г.), а першыя выпускнікі, якія атрымалі навуковыя званні — з Бярэсця. Зрэшты, як ужо ў 1900 г. пісаў гісторык Казімеж Мараўскі, пуцяводнай думкай аднаўленай Акадэміі ў XV ст. быў „клопат пра Літву і Русь".

Большасць „літоўскіх" студэнтаў у Кракаве безумоўна складалі этнічныя літоўцы каталіцкага веравызнання з Вільні, Коўна і г.д., але, напрыклад, у 1493 г. у мясцовага мешчаніна Мацея Пшыяцеля на 20 злотых у золаце завінаваціўся вучань Універсітэта Ян Забжазінскі, звязаны хутчэй за ўсё з Беларуссю, паколькі быў ён апошнім прадстаўніком багатага роду і пазней навагрудскім ваяводам.

Паводле В. Біржышкі, у XVI ст. у Кракаве вучылася ўжо толькі 27% студэнтаў з ліку тых, якія набывалі веды па-за межамі Вялікага княства „літоўцаў". Сярод іх былі таксама студэнты з Беларусі, напрыклад, у 1513 г. Якуб старэйшы і Якуб малодшы з Кялянаў каля Шчучына. Жылі яны ў прызначанай у першую чаргу для „літоўцаў" бурсе для ўбогіх, а папалі ў рэктарскі суд за тое, што насміхаліся з мазуроў, прытым Якуб малодшы не меў грошай, каб заплаціць штраф. У 1514-1515 гг. студэнт Ян з Гродна, колішні брамнік Collegium Maius, судзіўся са шляхецкім студэнтам Францішкам Забароўскім за параненне.

У 1522 г. універсітэцкі студэнт Мікалай з Коўна быў вінаваты калегу Альберту з Эйшышак каля Ліды 7 грошаў (тады за 1 грош можна было з бядой прахарчавацца цэлы дзень). На другі год студэнт Альберт з Літвы пазычыў нейкі жупан Пятру са Слоніма ў Беларусі. У 1529 г. студэнт кракаўскай сярэдняй школы пры Марыяцкім касцёле Мікалай Галінскі або Гілінскі з Вялікага княства быў паранены нажом ягоным калегам Урбанам, за што злачынцу аштрафавалі ажно на 60 злотых (тадышні адзін злоты роўны быў 30 грошам, што складала 1800 грошаў; конь каштаваў 120 грошаў, так што штраф варты быў 15 коней). У 1540 г. студэнт гуманітарных навук Валянцін Сламінскі з Літвы (са Слоніма?), які жыў пры Усясвяцкай парафіяльнай школе, быў часова затрыманы за параненне кракаўскіх гарадскіх вартаўнікоў.

Ад паловы XVI ст. „літоўскія" студэнты знікаюць з Кракава. Пераважна сталі яны падавацца на навуку ў пратэстанцкія універсітэты, між іншым у Крулевец (цяперашні Калінінград), а ў 1579 г. узнікла ў іх свая Віленская акадэмія.

***(заканчэнне будзе)***

**Вацлаў Урбан**
**(Кракаў — Кельцы)**

# Пра немцаў

Гэта загадкавы народ: разумны, прагрэсіўны, працавіты, дбайны і сумленны. Аж не верыцца, што Гітлеру і яго кліцы ўдалося яго закабаліць у сваё ярмо і быў пакорны ў тым хамуце аж дванаццаць гадоў, пакуль чужыя сілы не разарвалі яго і фашызм перастаў існаваць, аднак многа гора прычыніў ён многім народам, а найбольш Расіі ў часе апошняй вайны — цэлы акіян пралітай крыві. Цяжка зразумець, што разумны народ хацеў правіць цэлым светам. Аднак фашызм быў асуджаны публічна і Германіяй пачалі паспяхова правіць дэмакратычныя сілы.

Усходняя частка — ГДР — была маскоўскай правінцыяй, але ўжо ад дзесяці гадоў не існуе, бо аб'ядналася са сваёй заходняй сястрой — ФРГ. Германію разбурылі так, як яна разбурыла іншыя ўсходнія краіны. Саветы і Польшча павывозілі адтуль амаль усе фабрыкі і заводы, аднак немцы сваёй працай і кемлівасцю ўсё адбудавалі нанава і цяпер Германія стала супердзяржавай і мільёны замежных работнікаў там працуюць. Людзі жывуць заможна, мірна і чужому гавораць *Guten Tag*. Якая высокая культура там! А што ў Расіі? Беспарадак, хаос і сама дзяржава — галыш. Мо таму, што бальшавізм ніколі не быў асуджаны народамі? Калі гэтага не будзе, Расія ніколі не дагоніць Германію і цэлы прагрэсіўны свет.

**Мікалай Панфілюк**

20 гадоў дырэктарам Гайнаўскага дома культуры

# Дзеля дабра беларусаў

**З Міколам БУШКО, дырэктарам ГДК і Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, грамадскім дзеячам і артыстам-аматарам, гутарыць Ада Чачуга.**



***— Мікола! У цябе душа артыста, але па прафесіі ты — інжынер дрэваапрацоўчай прамысловасці, які закончыў варшаўскую SGGW.***

— З гэтай прафесіяй лягчэй было знайсці ў нас, у Гайнаўцы, працу.

***— І знайшоў ты яе 20 гадоў таму на пасадзе... дырэктара Гайнаўскага дома культуры, дзе змог працаваць для беларускай культуры.***

— І таму ў хату прыходжу толькі начаваць. Жонка ўжо не мае слоў на мяне.

***— Але сын пайшоў у беларускі ліцэй!***

— Наша пакаленне ўжо не баіцца беларускасці, хаця вядома, што кар'еры на гэтым не зробіш.

***— Мікола Бушко зрабіў! Дырэктар Гайнаўскага дома культуры, стваральнік і дырэктар Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, шматгадовы член хору ГДК. Ездзіць па свеце, сустракаецца з землякамі, з адзінаверцамі... Запрашае, арганізуе, прэзентуе.***

— Гэта зрабіла мая нармальнасць. Памойму, калі я вяду дом культуры там, дзе жывуць беларусы і палякі, дык зусім зразумела, што гэта будзе культура таксама для беларусаў. Калі ў маім асяроддзі моцна закаранелі традыцыі праваслаўнай культуры, дык павінна яна быць адлюстравана і ў дзейнасці нашага дома культуры. Калі, нарэшце, у пачатку 80-х гадоў пачала прабівацца альтэрнатыўная музыка, дык і ў нас яна знайшла месца.

***— З гэтай „незалежнай" творчасцю, здаецца, ты меў клопаты адразу?!***

— А так! Мы зрабілі агляд альтэрнатыўнай музыкі і гэта дакацілася на стол тадышняга І сакратара ЦК Войцеха Ярузэльскага, а потым у Міністэрства культуры, а да мяне дайшло ў форме выгавару.

***— Пачатак Дзён царкоўнай музыкі таксама быў даволі круты!***

— Гэта было ў 1983 годзе. Пасля першых Дзён царкоўнай музыкі (пра Фестываль тады было страшна заікацца) сакратар прапаганды, палкоўнік, сабраўшы чалавек дзвесце актыву, прачытаў даклад: „Ідэалагічная барацьба ў сучасным свеце". Як прыклад такой барацьбы ў культуры падаў прайшоўшыя першыя Дні царкоўнай музыкі і падрыхтоўку да другіх Дзён. Я ўстаў і прабаваў бараніць формы сваёй дзейнасці. Да сёння я памятаю, як тады ў разгары дыскусіі ўстаў нейкі партыйны актывіст і кажа: „Ja jako katolik nie mam nic przeciwko tej imprezie". Сярод партыйных дзеячаў былі людзі, якія глядзелі на жыццё шырэй, чым ад іх патрабавалі. І менавіта яны мяне абаранілі. А так быў бы я сёння „камбатантам".

***— А як гэта было з тваім арыштаваннем?***

— О, у 80-х гадах было шмат цікавых момантаў. Сапраўды, даваялося мне пераначаваць ноч у арышце без рамня, гадзінніка, гальштука і шнуркоў. І пад канвоем я быў давезены ў суд, дзе мяне абвінавацілі ў спекуляцыі. Дакапаліся, што на мяне запісана гаспадарка, і я, працуючы ў Гайнаўскім доме культуры, бясправўна атрымаў картачкі на 1,8 кг мяса.

Мяркую, што гэта была толькі прычына, бо справа дзеялася перад Фестывалем. Ніхто тады нават не спрабаваў праверыць, што я натарыяльна здаў гаспадарку ў арэнду. Справу спынілі. Відаць, знайшлі сапраўдных злачынцаў.

***— Ці не ўсё гэта прывяло цябе ў „Салідарнасць"?***

— Не, у першую „Салідарнасць" я ўступіў не таму, што мяне праследавалі. Проста я лічыў, што гэта будзе слушная справа. У Гайнаўцы ў яе ўступіла нямала беларусаў. Аднак, у поўным моманце, пад канец 1981 года, мы пачалі адчуваць, што там для нас штораз менш месца. Занадта моцна пачала яна хіліцца ў бок Каталіцкага касцёла, забываючыся пра сваіх членаў іншага веравызнання.

У другой „Салідарнасці", у кастрычніку 1989 года нам ужо не хапіла месца. Нас туды не прынялі, хаця мы падпісалі дэкларацыі.

***— У той жа час пачаўся славуты канфлікт у Гайнаўскім доме культуры?***

— У канфлікце, як вынікае з дэфініцыі, павінны быць два бакі. А там была проста нагонка на мяне.

***— А што не падабалася? Якія былі закіды?***

— Лепш было б запытацца, якіх закідаў не было! У народзе я нават пачуў, што ў 50-х гадах я хацеў Беласточчыну далучыць да Савецкай Беларусі. Значыцца, сваю дзейнасць я пачаў вельмі рана, бо нарадзіўся ў 1949 годзе.

Цяпер атакавала мяне „Салідарнасць". Нават дагаварыліся да таго, што я хачу стварыць беларускую „Салідарнасць" і стаць на чале яе. А мне здаецца, што найбольш не падабалася ім тое, што частку сваёй дзейнасці я прысвяціў беларускай і праваслаўнай культуры — усё ў сістэме нармальнасці.

***— Па Беластоку тады хадзілі чуткі, што гайнаўскі хор, які быў заснаваны ў 1982 годзе, спявае „бяспраўна" амаль адны беларускія песні. А Дні царкоўнай музыкі, стваральнікам якіх быў ты, гэта быў амаль сабатаж...***

— Менавіта гэта перш за ўсё не давала спаць некаторым. Але закідаў не бракавала. Пачаліся бясконцыя кантролі ў Доме культуры. Толькі рашэнне Генеральнай пракуратуры закончыла гэту каніцель.

***— А пасля мы сустрэліся за акіянам, дзе ў Кліўлендзе адбывалася XIX Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі.***

— Так, з усяго гэтага я ўзяў бясплатны водпуск і на пяць месяцаў выехаў у Кліўленд. Амерыка дазволіла мне глянуць на нас, беларусаў, з поўнай адлегласці. І яна мне дала ўпэўненасць, што ўсё, што я раблю, варта рабіць далей.

Амерыка — не такая ўжо Амерыка. Я ўбачыў, як цяжка там людзі працуюць. Але што мне там спадабалася, дык гэта тое, што там нікому не перашкаджае, хто ты: католік ці праваслаўны, кітаец ці ірландзец. Абы добра працаваў.

Я цёпла ўспамінаю многіх землякоў, з якімі я пазнаёміўся там. Некаторыя са старых амерыканскіх беларусаў многа робяць для беларускасці, цешацца аднак, што іхнія дзеці ўжо добра гавораць па-англійску.

***— Нягледзячы на перыпетыі лёсу і лёгкую меланхолію ў тваім голасе, я бачу, што ты захаваў у сабе жыццядайную сілу і энергічную натуру, ахвочую да грамадскай працы. Дык зычым табе новых вялікіх дасягненняў у дзейнасці дзеля дабра беларусаў.***

Гутарыла Ада Чачуга

---

Міхась Андрасюк

# Кароткая гісторыя Партыі кучаравых

**2. Прэсавыя водгукі**

З белай раніцы пазваніў тэлефон. У пошуках крыніцы нахабнага гоману мая рука, няўпэўненая і дрыготкая, скінула на падлогу будзільнік, акуляры, бутэльку з-пад мінеральнай вады, напаткала эбанітавую трубку і вяртаючыся навакольным шляхам, абмінаючы коўдру, падушку ды нагавіцы, якія невядома чаму апынуліся на маёй галаве, данесла гэтую ж трубку да вуха. Трубка азвалася голасам Майсеевай скрыпачкі.

— Алё? Гэта сядзіба Партыі кучаравых? Я — рэдактар незалежнай беластоцкай газеты. Скажыце, калі ласка, якія галоўныя тэзісы вашай партыі?

Якая сядзіба? Якая партыя? — падумалася мне ў першы момант. Баляваў чалавек усю ноч, а цяпер вось шукае больш п'янага ад сябе!

— Вы будзеце дзяліць ці аб'ядноўваць грамадства? — трубка не адступала.

Быццам з-за белага туману паплыла да маіх вачэй знаёмая ружовасць сурвэты. Разгортваючы густую імглу, з прорвы здэфармаванага часу выбраўся на свет і Тадзік, і з аблічам чалавека натхнёнага высакароднай ідэяй яшчэ раз прыклеіў ружовую аб'яву на сцяне Алесевага бара.

— Алё! Ці вы мяне чуеце?

— Чую, чую...

— Значыць як: ці дзеліце, ці аб'ядноўваеце?

— Спачатку будзем дзяліць, а потым — аб'ядноўваць.

— А які ваш погляд на беспрацоўе?

— Праца толькі працавітым, бабы — бабнікам, а віно — вінаватым, — каб апярэдзіць наступныя пытанні, я выкінуў з сябе ўсё, што якраз паспела прыдумаць не зусім яшчэ спраўная галава.

— Вінаватым у чым? — не зразумела трубка.

— Напішыце як вам падыходзіць, — сказаўшы гэта, я адкінуў трубку і зваліўся ў незакончаны сон.

Апоўдні хтосьці пастукаў у дзверы. Праўда, тады яшчэ я не ведаў — поўдзень гэта, раніца, а мо адвячорак? — і толькі разглядаючы канфігурацыю промняў на ваконным шкле, стараўся здагадацца: пакідае нас стары дзень, ці сустракае новы?

Грукат у дзверы паўтарыўся. Хтосьці даваў знак, што жыве і чакае, значыць — трэба адракацца ад касмічна-метэаралагічнай шарады, падняцца ды глянуць — хто і навошта патрабуе маю асобу.

— У горадзе — вайна, — два звычайныя словы паспеў сказаць Тадзік і амаль нежывы зваліўся на падлогу.

— А ў гэты раз хто? Новыя саюзнікі ці старыя? — нахіліўшыся над ляжачым, я стараўся выціснуць з яго нейкую, прынамсі падставовую інфармацыю. Тадзік ляжаў, аднак, бы той марафонскі бягун, які перабег кусок свету, сказаў што сказаць яму загадалі, а потым прылёг і дзеля несмяротнасці сканаў, бы той апошні ідыёт.

Ляжаў Тадзік хвілін пяць. А потым — расплюшчыў вочы, ажыў — праўдападобна ягоны маршрут быў значна карацейшы за сорак кіламетраў. Вярнуўшыся да натурай прадбачанага стану, падсунуў пад мой нос газету: на, чытай.

Акуляры, шчаслівым выпадкам, стрымалі ранішнюю сустрэчу з падлогай, я мог карыстацца імі надалей, на тое хаця б, каб даведацца пра актуальную сітуацыю ў горадзе. А выглядалі справы так:

„Учора ўзнікла новая партыя — Партыя кучаравых. Узнікла з мэтай падзяліць спакойнае грамадства на дзве супрацьлеглыя сілы. Нашых богабаязных жонак і дочак кінуць на волю распусным бугаям, а лепшыя штукі адправяць за мяжу, вядома — не за адно слова „дзякуй". І калі, дарагія суродзічы, запоўняцца арыентальныя гарэмы нашымі славянскімі нявіннімі цамі, ніхто — ні Бог, ні гісторыя не даруюць нам такі сорам!

Партыя кучаравых рыхтуе яшчэ і іншае злачынства. Разглядаюцца праекты, каб усякай масці злачынцаў, зладзеяў і забойцаў у будзённыя дні частаваць напоем маркі „Швейх", а ў дні святочныя, у дні душэўнага аднаўлення, прымаць гэтых нягоднікаў імпартным вінoм! Як можна здагадацца, пачастунак прадбачваецца за кошт сумленнага падаткаплацельшчыка".

— Так страляюць з правага фланга. А з левага таксама не маўчаць. Чытай во, чытай, — разлажыў Тадзік другую незалежную газету.

„Партыя кучаравых у сваіх праграмах і шматлікіх выступленнях абяцае занятак толькі і выключна працавітым. Тады пытаем вас, панове: а што з іншымі? Якая будучыня перад звычайнымі, добрасумленнымі жыхарамі нашага горада? Перасяліць лянівых у далёкія краіны? Кінуць іх у абдымкі бяды і голаду? А мо адразу лянівых расстраляць?! Панове Біндзюк, Лапаеў, Кукаліцкі ды іншыя грамадзяне — не ёсць нашым намерам страшыць вас! Калі аднак возьме ўладу Партыя кучаравых, пачынаючы з наступнага дня можаце разглядацца за месцам на гарадскіх могілках".

Іншыя газеты пра нашу партыю не пісалі. Мо не ведалі пра яе існаванне, а можа, звычайна — не лічылі сябе незалежнымі?

Аднак і такая невялікая прапаганда зрабіла сваё. Людзі прыходзяць, нясуць свае клопаты і радасці. Мы вельмі рады бачыць іх. І Алесь — таксама ж.

*(працяг будзе)*

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Засыпалі пытаннямі


Клас IV „д” з настаўнікам Яраславам Падольцам.

Сустрэчы ў школах бываюць розныя. Многа залежыць ад актыўнасці дзяцей і іх настаўнікаў. Зразумела, што цікавей сустракацца з чытачамі.

— У IV „д” класе ўсе вучні падпісваюцца на „Зорку”, — кажа настаўнік беларускай мовы ў бельскай „тройцы” **Яраслаў Падолец**.

Мае новыя сябры вельмі старанна падрыхтаваліся да спаткання.

На прывітанне Мацей Шумялюк прадэкламаваў верш „Умею". Мацей, хаця чацвёртакласнік, ужо ветэран дэкламатарскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы „Роднае слова".

Затым дзеткі расказалі пра свой клас. У IV „д” класе 26 вучняў і многа выдатнікаў па беларускай мове. Сярод іх дзеці назвалі: **Юльянну Шчурак**, **Арка Дораша**, **Аліну Крупіцкую**, **Паўліка Кандрацюка** і **Аню Пахвіцэвіч**. Двое апошніх ды **Юльянна Шчурак**, разам з **Мацеем Шумелюком**, **Агнешкай Смактуновіч** і **Юстынай Альштынюк** прымалі ўдзел у дэкламатарскім конкурсе.

— У другім класе беларускай мовы навучала нас Аліна Ваўранюк, а ў трэцім — Валянціна Бужынская, — адзначылі дзеці.

У канцы сустрэчы ролі памяняліся, чацвёртакласнікі засыпалі мяне пытаннямі. Большасць іх датычыла працы рэдакцыі, гісторыі газеты і сустрэч з дзецьмі і моладдзю. Дзеці хацелі ведаць, на якой мове размаўляю ў сям'і, што цаню ў жыцці. Сапраўды — цяжка выступаць у якасці „цікавага" чалавека.

**Зорка**

*Фота Ганны Кандрацюк*

## Вершы Віктара Шведа

### Лупцоўка перад камандзіроўкай

— Чаму, прызнайся, тата,
Ты без повадy зноўку,
Калі я не быў вінаваты
Зрабіў мне сёння лупцоўку?

— Ты быў, сынок, пакараны
Таму вось каб добра ведаў,
Што маеш быць паслухмяны,
Калі ў камандзіроўку паеду.

### Трох чужою галавою

— Чаму так позна, Мікола,
Вяртаешся са школы?
— Па ўроках сядзеў я за тое,
Што патрос галавою.

— За гэта, мой каханы,
Ніхто не быў пакараны.
— Ды, татка, я не сваёю:
Трос галавой чужою.

## Успамін дэкламатарскага конкурсу


Дэкламатары і выдатнікі па беларускай мове з III „д” бельскай „тройкі”. Фота Г. К.

У кастрычніку настаўніца беларускай мовы Валянціна Бужынская сказала нам, што будзе дэкламатарскі конкурс беларускай паэзіі і прозы „Роднае слова". Настаўніца прынесла і прачытала нам вершы — доўгія і кароткія. Кожны вучань выбіраў верш, які яму падабаўся. Васемнаццаць вучняў вывучыла вершы напамяць. У час конкурсу дзеці дэкламавалі выразна, голасна і з правільным націскам. Я дэкламавала верш Максіма Танка, а мае сяброўкі — Уладзіміра Мацвеенкі і Рыгора Барадуліна. Пасля конкурсу, калі мы чакалі вынікаў, настаўніцы падрыхтавалі нам конкурсы і пачастунак. На раённы этап перайшло пяць вучняў з нашага класа, між іншым — я.

**Марта Пахвіцэвіч, кл. III „д”**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

## Любчыны прыгоды

*(амаль дзённік)*

**Як Любачка татку папярэдзіла**

Збіраўся Любчын татка ў Мінск. І білет купіў, і рэчы спакаваў, а Любачка яго не пускае. Ёй тады пяць месяцаў было. З нейкім там хвосцікам. Гаварыць яшчэ нічогенькі не ўмела. Але татку разумела. І ён яе разумеў. Бывае, збіраецца куды ісці, дык кажа ёй: „Ты, Любачка, тут з матуляй пагуляй, а я пайду малака куплю”. Дык яна зірне на яго, міргне вочкамі, нібыта адказ дае — ідзі ўжо, што з табой зробіш! — і татка спакойны: ведае, што дачушка хваляванца не будзе.

А тут — не!

Ён ёй і так, і гэтак — да бабулі, кажа, з'ездзіць пара, як яна там жыве, паглядзець, ды яблыкаў-антонаў прывезці, — а яна, — не, не згодная: татку дазвол не дае! Пазірае на яго трывожнымі нейкімі вачаняткамі і нібыта кажа, не едзь, татка, а чаму не едзь — сказаць таго не можа. Дапытваўся татка, ды марна: усе словы Любчыны — у позірку яе! А як не скеміў, не здагадаўся — твая бяда, татачка!

Дык я ж там доўга і не буду, даводзіць ёй татка, хутка вярнуся, а Любачка адно ручаняты да яго цягне, нібы ўтрымаць хоча.

Як ні цяжка было адарвацца ад гэтых ручанят, а мусіў татка ехаць: паўгадзінкі ўсяго заставалася, каб на цягнік паспець.

Пацалаваў яшчэ раз дачушку і пабег. Едзе ў тралейбусе да вакзала Віцебскага — і спакою яму няма: чаму гэта Любка пускаць яго не хацела?

Толькі ў вагон ускочыў, а тут і паехалі. Ціхенька спачатку — штуршка нават не адчулі, — а потым хутчэй, хутчэй!

Восгь і перон скончыўся, праваднікі дзверы пазачынялі — тахкаюць колы! Як Абвадны канал пераедзем,

# Дачка-Снежка

Жылі сабе аднойчы дзед і баба. Усё ў іх было — і карова, і авечка, і стары кот на печы — толькі не мелі яны дзяцей.

Аднойчы зімой снегу нападала па калені. Усе дзеці выйшлі на панадворак. Яны спявалі, танцавалі і ляпілі снежную бабу.

Спаглядае дзед у акно і так кажа бабе:

— Што ты так глядзіш на чужых дзяцей? Ідзем і мы пагуляць, злепім снегавіка.

Бабе гэта спадабалася.

— Ідзем, толькі не снегавічка, а дачку-Снежку злепім, — кажа яна.

Гэтак і зрабілі. Яны стварылі прыгожую дзяўчынку. На месца вачэй яны ўставілі сінія перлы, а замест валос — аранжавую стужку. Глядзяць дзед з бабай, цешацца.

Раптам дачка-Снежка ажыла. Усміхнулася і пайшла ў хату. Дзед з бабай ад шчасця мала не ашалелі. З гэтай пары яны апекаваліся Снежкай. Яна з дня на дзень станавілася прыгажэйшай.

Пасля зімы прыйшла вясна. Снежка сталася сумнейшай. Аднойчы прыйшлі да Снежкі дзяўчаты. Яны ішлі ў лес па ягады і хацелі забраць яе з сабой. Снежка не хацела выходзіць на панадворак, але пайшла.

Калі дзяўчаты назбіралі поўныя кошыкі ягад, быў ужо вечар. Яны распалілі вогнішча. Скакалі цераз агонь, спявалі, танцавалі. Калі прыйшла чарга Снежцы скакаць над агнём, яна разбеглася і скокнула. Раптам нешта зашумела і Снежкі ўжо не было — асталася толькі белае воблака над вогнішчам...

Ніхто больш Снежкі не ўбачыў...

*(паводле рускай народнай казкі)*

**Кацярына МАНАХОВІЧ**
**і Магда КРЫШПІНЮК,**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

# Тэатр у Кляшчэлях




Аж дваццаць адзін спектакль быў паказаны 21 лютага ў Кляшчэлях на аглядзе беларускіх школьных тэатраў.

Гран-пры журы аднагалосна прысудзіла Пачатковай школе ў Саках за пастаноўку мантажу на словы Кандрата Крапівы „Ехаў дзедка на кірмаш". Пяць асоб з адным возам, без ніякіх больш рэквізітаў, зайгралі так, што ніхто не сумняваўся, каму прызнаць галоўную ўзнагароду. Калектыў з Сакоў атрымаў таксама ўзнагароду бурмістра Кляшчэль, а яго апякунка Валянціна Дзмітрук — узнагароду дырэкцыі Пачатковай школы ў Кляшчэлях.

Два першыя месцы былі прысуджаны: Пачатковай школе ў Аўгустове за пастаноўку „Жытнёвы каласок" і Пачатковай школе н-р 3 у Гайнаўцы за спектакль „Вясна". Другімі месцамі падзяліліся: малодшыя дзеці з Пачатковай школы ў Нарве, таксама за „Жытнёвы каласок", вучні з Дубіч-Царкоўных за спектакль „У лясным гушчары" (багатыя дэкарацыі, музыка, святло) і гаспадары, вучні з Кляшчэль за пастаноўку „Як цыган багацея перахітрыў". Трэцяе месца ўзялі дзеткі з Беластока, якія не вучацца беларускай мове. Сцэнку „У Віфлееме" падрыхтавала на ўроках рэлігіі Лена Добаш. Яшчэ адно трэцяе месца зававалі іншыя дзеткі з Аўгустова, тым разам за пастаноўку казкі „Пшанічны каласок".

— Пастаноўка спектакляў у школе зацікаўляе беларускім словам не толькі вучняў, але і бацькоў, — кажа настаўніца з Нарвы Ніна Абрамюк. — У выніку гэтага, у мяне павялічваецца колькасць дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову.

— Такая форма працы з вучнямі вельмі карысная, — лічыць методык навучання беларускай мовы Тамара Русачык. — Не заўсёды хочацца ім чытаць, а тут пазнаюць новыя словы і вучацца правільна іх вымаўляць. Засвойваюць літаратурную норму беларускай мовы. Ну і развіваюць свае мастацкія здольнасці. Адным словам, вучні, гуляючы ў тэатр, усебакова развіваюцца.

**М. В.**

# Мой родны кут

Аднойчы прыйшоў да нас дзед Макар. Гэта быў стары чалавек, якому, як казалі людзі, было каля ста гадоў. Я падышла да яго і стала пытацца:

— Дзедку, колькі вам гадоў? Сядайце і раскажыце, як то даўней было? Чаму наша сяло — Падрэчаны?

Дзедка паставіў сваю кульбаку ў куточку, сеў на крэсла каля стала і сказаў:

— Дзіця маё, у мяне за плячыма больш за дзевяноста гадоў. Як сон прайшло жыццё маё. А мне здаецца, што я толькі ўчора нарадзіўся на свет... Цяжкае маё жыццё, але жыць хочацца. Просіш расказаць пра Падрэчаны. Яго так называюць таму, што ляжыць яно каля рэчкі Локніцы. Даўным-даўно, расказвалі старыя людзі, жыў пан, займаў ён сотні гектараў зямлі. Калі пачалася вайна, яго двор згарэў, а самога забілі. Чуў я ад старых людзей, што руская царыца Кацярына падарыла зямлю свайму палкаводцу. Ён быў генерал над усімі генераламі і называўся генералісімус. Гэты раздаў зямлю сваім салдатам, а яны тут і пасяліліся. Ад іх мы бярэм пачатак вёскі. Працуем, любуемся прыродай і цешымся жыццём.

**Аліна СІРОЦКАЯ,**
**VIII кл. ПШ у Чыжах**

**Агнешка ГАЛІМСКАЯ**

* * *

Рэгіянальныя адрозненні
бываюць пазначаны
даследчыкі вылучаюць этапы
адны і тыя ж самыя
больш або менш падрабязна
з запісаў абраднасці
разгледзелі народны тэатр
у межах традыцый
вылучаюцца напрамкі жыцця
Вяселле — хрысціны
спрытна вызначаны канец
— магіла

дык і не спыніць ужо цягніка — памчыць!

А татка, як месца сваё заняў, то ні кніжкі, як звычайна, не дастае, ні ежу не распакоўвае, — нібыта і не пасажыр ён, а проста так, на хвіліначку тут прымасціўся, — а сам знерухомеў, толькі вочы некуды ўглыб сябе скіраваны, ды слых — як у лесе, на паляванні: дзе ж тая бяда схаваная, пра якую дачка папярэджвала?

І раптам — грым! — нібыта стоп-кран сарвалі — так тузанула. Бутэлькі з напіткам са століка паляцелі, дзіця ў суседнім купэ крыкнула, а потым — цішыня... Як у полі...

Татка зірнуў у акно — адно рэйкі блішчаць, ды паперкі на камянючках тоўчаных скрозь валяюцца, — каму тут узбрыло цягнік спыняць?!

А музыку, што грала, абарвалі раптам, і брыгадзір — пэўне, ён, бо голас такі начальніцкі, — загадаў праваднікам з шостага і з восьмага вагонаў да яго з'явіцца, а астатнім — застапарыць дзверы паміж вагонамі і нікога нікуды не пускаць.

Голас амаль спакойны, стрыманы, — нібыта штодзень даводзіцца так абвяшчаць, — але ж народ не дурны: зразумеў, што бяда нейкая, а якая — ніхто не ведае.

Замітусіліся пасажыры — хто да праваднікa, хто за клункі, — а Любчын татка сядзіць і — ані-ні! — не варушыцца: зразумеў ён нарэшце, ад якой бяды дачушка перасцерагала. І паціху шэпча сабе: „Дачушка мая залаценькая... Адкуль жа ты пра ўсё гэта ведала?.. Хто табе падказаў?.. Хто нас з табою бярог? А я, дурань, не паверыў, засумняваўся... Даруй, Любачка!"

А гэта не стоп-кран тады сарвалі, а вагон, у якім татка ехаў, на стрэлцы з рэек зляцеў — дзіва што тузане! Гадзіны дзве той вагон падымалі ды на рэйкі стаўлялі. А потым увесь састаў зноў на перон загналі, і адтуль ужо ў другі раз на Мінск адпраўляліся. Але цяпер татка ані не хваляваўся: Любачка яму шэптам пераказала, што нічога благога болей не здарыцца.

*(працяг будзе)*

**Анатоль КІРВЕЛЬ**

# Пазналі ўсе жанры

У днях 1-6 лютага г.г. у Старыне, што каля Дубіч-Царкоўных, адбыліся XVI Сустрэчы „Зоркі". Удзельнічалі ў іх вучні пачатковых школ, ліцэяў ды студэнты з Бельска, Гайнаўкі, Дубіч-Царкоўных, Гарадка, Беластока, Варшавы.

Удзельнікі пазналі ўсе жанры журналістыкі: інтэрв'ю, прэсавую інфармацыю, фельетон, рэцэнзію і эсэ. Дакладчыкамі былі журналісты „Нівы", Радыё Беласток, Тэлебачання Беласток і „Бельскага гасцінца" (В. Луба, А. Максімюк, Г. Кандрацюк, М. Ваўранюк, М. Сцепанюк і Ж. Роля).

Апрача навукі вучні ставілі спектакль пад загалоўкам „Куль", а яго прэм'еру вызначылі на 6 лютага (пятніца). Завяршэннем Сустрэч „Зоркі" была аб'ява конкурсу на найлепшы артыкул.

**Кася ЛУКАШУК, кл. VIII**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

# Польска-беларуская крыжаванка № 11

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ▶ | | | Nagroda | Rynek | ▼ | Szansa | 📖 | Kiełbasa | ▼ |
| Żelazko | Car | Przemówienie | ▶ | | | | | | |
| Płot | Książę | ▶ ▼ | | | | ▼ | Cyrk | 📖 | |
| Zasada | ▶ ▼ | | | | | | ▼ | Pęta / Tur | |
| Witka | ▶ | | | | Ruta / As | ▶ | | ▼ | |
| ▶ | | | Kaktus | | | | | | |
| Nos | | Las | ▶ | | | Ara | ▶ | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 7:** Пабыўка, вір, ас, серка, ржа, халява, паверх, нырка, юка, біржа, асада.

Узнагароды, **аўтаручкі**, выйгралі: **Юліта Гайко** з Бельска-Падляшскага, **Бажэна Кананюк** з Новага Беразова і **Юстына Гацута** з Трывежы. Віншуем.



Талон „Зоркі" № 11
14.03.1999

# Збіраем добрае

**З пісьменнікам Леанідам ЛЕВАНОВІЧАМ гутарыць Міра Лукша.**

***— Леанід Кірэевіч, вы даўно знаёмы з нашай „Нівай".***

— Ну, я стаў чытач вашага тыднёвіка. Я памятаю „Ніву" гадоў таму 25. Я тады працаваў у часопісе „Полымя", адказным сакратаром спачатку. Яна здавалася мне тады газетай цікавай, а нават мясцамі фрывольнай. Мы тады былі заштораныя, нас душылі той галоўліт, тая цэнзура...

***— Цэнзуры ў нас тады таксама было цікава, што пішам.***

— Мне падабалася, што так многа ў вас інфармацый з вясковага жыцця, з жыцця беларусаў і такія дасціпныя анекдоты. Напэўна, быў нейкі налёт такой правінцыйнасці, мне здавалася. Зараз „Ніва" больш сучасная, з пэўным еўрапейскім глянцам, больш „выкшталцоная", адным словам. Добра, што не супрацоўнікі трымаюць руку на плыні часу. Бо трэба быць сучасным, прыстасоўвацца да таго, каб чытача зацікавіць. У наш час зацікавіць яго вельмі складана. Ён столькі ўжо ўсяго ведае і мае, і выбар ёсць. Ваш кірунак правільны. І тое, што вы беларускую мову і літаратуру прапагандуеце, і сваіх аўтараў — гэта добрая справа. І мне здаецца, што насуперак усяляму ліху вы павінны жыць і працаваць далей і радаваць чытача. Бо калі не верыць у гэта, дык няма і чаго рабіць.

***— Некаторыя кажуць, што замнога ў нас „палітыкі", замала „вёскі". Усё ж — палітыка.***



*Леанід Леановіч з маладой паэтэсай і навукоўцам Аленай Яскевіч.*

— Магчыма, нешта ў гэтым ёсць. Зараз гэтак не толькі ў вас, а і ў многіх іншых газетах пераважаюць палітычныя матэрыялы. Палітыкі і ў тэлебачанні, і радыё столькі, што ў тыднёвіку лепш даваць больш „жыцця", проста народнага, плынь жыцця паказваць. І горад, і вёску. У вёсцы, вядома, беларускае жыве. Большасць беларускіх пісьменнікаў вырасла з вёскі...

***— А як цяпер з беларускай літаратурай у Беларусі? Здаўна ёсць хіба спробы „адарвацца" ад вёскі?***

— Ёсць спробы, і даволі ўдалыя, сучасную зрабіць. Хоць бы міфалагізацыя, і псіхалагізм, узяць хоць бы Анатоля Казлова; вельмі таленавіты празаік. Андрэй Федарэнка — ён ужо вядомы, малады сталы літаратар. Ёсць і спробы штукарства, хоць бы „Бум-бам-літ". Ну, гэта непазбежна — маладыя, хай спрабуюць новага...

***— Часам гэта іншымі ўжо даўно пройдзены шлях. А прабіцца цяжка да чытача.***

— Не проста зараз прабіцца. Яно, мусіць, заўсёды было складана, а зараз асабліва. Бывала, чакаў чалавек 2-3 гады, „убіўся" ў выдавецкі план, і выйшаў. А зараз і ў плане ёсць, а кніжкі няма! І што цікава, бывала — у часопіс было не прабіцца, у „Полымя", у „Маладосць", а многа кніг выходзіла, бывала — слабейшых. Усё-такі кніжкі будуць, і маладых таксама. У нас у „Мастацкай літаратуры" ляжыць каля 12 кніжак маладых, ну, і ўсё-ткі прэзідэнт грантам падпісаў на гэта грошы. Будуць выходзіць.

***— Грошай не даецца дарма, асабліва калі і іншыя глядзяць на рукі. Ці нейкая цэнзура ёсць? Я чула, што пэўныя справы неяк разглядаюцца, прапускаюцца праз нейкае сіта...***

— Не. Пакуль што, выдавецтва вырашае, што выдаць, і цэнзуры, усё-ткі, няма. Не тое, што было. Я ж доўга працую, ведаю. Бывала. Панчанку мы друкавалі ў „Полымі", цэнзура здымае і сёе, і тое. Я званю: „Пімен Емельянавіч, што рабіць?! Давайце, мо самі памяняем тое слова на другое?" Было такое. Цяпер чалавек ужо смялей. Вось у мяне выйшаў раман „Дзікая ружа". Я такі раман не выдаў бы раней. І нават не адважыўся б яго пісаць. Там старшыня сельсавета вешаецца, піша пісьмо ў райком партыі. Гэта ў 1953 годзе.

***— Ага. А пра наш час?***

— Час наш складаны і жорсткі, і неміласэрны, але для літаратара ўсё-ткі цікавы. Чалавек скажа: „Які ж ён цікавы, той час, калі не можаш звязаць канцы з канцамі, жыць так цяжка!" А пісаць можаш цяпер што хочаш.

***— Цяпер ваша рэдакцыя вялікая.***

— Я працую ў „Мастацкай літаратуры" загадчыкам рэдакцыі збору твораў, выбраных твораў, перавыданняў, крытыкі і драматургіі. Было раней чатыры рэдакцыі, цяпер іх аб'яднаці. Збіраем, выдаем найлепшае.

***— Грошы плацяць тыя самыя, а работы болей. Што залежыць ад выдавецтва?***

— Выдавецтва вырашае многае, ды не ўсё ад нас залежыць, але і ад дзяржкамдруку. Проста, грошай няма, не могуць нам даць датацыі, або заказаў мала на кнігу. Мы ж звязаны гэтым.

***— Цяжка ўвогуле купіць беларускую кнігу, у бібліятэках няма новых выданняў...***

— Тут мы, выдавецтва, разам з Міністэрствам культуры вызначаем, якія кнігі заказаць бібліятэкам. Найбольш значныя. І гэта вялікая падтрымка, гэта ж за дзяржаўныя грошы. Але зараз такія малыя тыражы, што большасць кніг не даходзяць у бібліятэкі. Вось мы на Гарэцкія чытанні ездзілі ў Докшыцы, па дарозе заехалі ў Бягомль, там ёсць бібліятэка імя Пімена Панчанкі. У гэтай бібліятэцы я ўбачыў дзве свае кніжкі — „Валанцёр свабоды" і „Паводка сярод зімы", выдадзеныя даўно. „Паводка" зачытана настолькі, што ледзь трымціць, хоць у цвёрдых вокладках. А пазнейшых маіх кніг — няма ніводнае. Яны проста туды не дайшлі. Раней, калі кніжка выходзіла ў 12 тысяч, то ў бібліятэку трапіў хоць адзін экземпляр. А зараз — дзве тысячы або і паўтары, а то і менш. Знізваецца наклад. Тут прычына не ў тым, што грошай у людзей няма. На гарэлку грошы ў іх знаходзяцца! Хоць і цяжка жывецца. Проста, сістэма разбурылася, і кнігі ў раённыя кнігарні проста не даходзяць. Зойдзеш у такую кнігарню, а там — пустыя паліцы.

***— І што тут рабіць?***

— Нешта робіцца. Мы далі прапановы, і адміністрацыя прэзідэнта. Раз падпісана, грошы можа будуць. Вось пераклаў „Боскую камедыю" Данта Уладзімір Скарынкін, — выдатны пераклад, падзея ў культурным жыцці Беларусі. Кніга выйшла, аўтару мы не заплацілі, а належалася яму 76 мільёнаў. Трэба было пісаць грант, прасіць падтрымкі. Усё ж дзяржава памагаць павінна. А цяпер выключы дыктафон, не ўсё ёсць для запісу.

***— Дзякуем за размову. Мацуйцеся!***

# Беларускі вечар у Варшаве

Аўтарскі вечар Алены Анішэўскай і Дзмітрыя Шатыловіча, названы „беларускім вечарам", адбыўся ў асяродку культуры славянскіх народаў у Варшаве 15 лютага 1999 г. Невялікая зала бібліятэкі ледзь памясціла каля 40 асоб, пераважна знаёмых з колішніх частых сустрэч у сценах беларускага клуба. Спатканне ўдастоілі саветнік пасольства РБ Міхал Бацян і перакладчык беларускай літаратуры на польскую мову Чэслаў Сэнюх.

Прафесар Васіль Белаказовіч, які прыняў на сябе абавязак гаспадара вечара, прыблізіў прысутным асобы аўтараў, іх паходжанне і жыццёвы шлях. Звярнуў увагу на сувязь перажытага імі з іх творчасцю, тыповай для этнічнага памежжа.

Чытанне і дэкламацыя вершаў Аленай Анішэўскай, з яе зборніка „Смак жыцця", выдадзенага ў 1998 г. на беларускай і польскай мовах, ды кароткія каментарыі выклікалі прыхільнасць, выяўленую, перш за ўсё, жанчынамі ў сітуацыйных заўвагах. У змесце зборніка сапраўды праяўляецца шырока зразумелы смак, калі не сказаць культ жыцця, повязь з роднаю прыродаю, паэтычнае бачанне яе красы, цеснае з'яднанне з ёю. „Мне не ўсё роўна, дзе жыву я. Ды ў неабудны адыду спачын", — піша паэтэса.

У сваіх вершах, характэрных рэфлексіўнасцю, Алена Анішэўская не раскідаецца лішняй метафарай. Карыстаецца ёю па меры неабходнасці мастацкага выяўлення вобразу альбо ў выпадку вельмі асабістых інтымных пачуццяў, як, напрыклад, у вершы на польскай мове „Nadzieja", дзе цэлы верш з'яўляецца фактычна метафарай. Падгляданне жыцця, выснова з гэтага назірання выяўляецца ёю, між іншым, у паэме „Наш Парнас" з намераным пераймannем манеры „Тараса на Парнасе", дзе гумарыстычна адлюстроўвае яна „белавежскі" парнасік. Паэзія Алены Анішэўскай уфармаваная пад уплывам тае — з палавіны стагоддзя — аб'явілася ў традыцыйным, з тых гадоў, стылі і форме, ад якой аўтарка паступова адыходзіць у карысць сучасных формаў верша, у тым ліку — вольнага, а колькасць свайго пісання выразна падпарадкоўвае яго літаратурнай якасці.

Дзмітры Шатыловіч сустракаўся не раз ужо са сваімі чытачамі ў прошлым. Ён з жорсткай паслядоўнасцю прытрымоўваецца традыцыйнага стылю і формы рыфмавання верша. Паэзія яго характэрная апісальнасцю і дакладнасцю ў выражэнні думкі адпаведна тэхнічнаму інтэлігенту, якім, па прафесіі, з'яўляецца інжынер Д. Шатыловіч. Прачытаныя ім у час сустрэчы вершы са зборніка „Эцюды падарожжа", выдадзенага ў 1992 годзе і „Маё Падляшша" ад 1993 г., прыводзяць на думку дзве галоўныя высновы. Перш за ўсё, маюць яны пазнаўчае значэнне з галіны геаграфіі, гісторыі, у тым ліку старажытнай, пераказаныя чытачу ў літаратурнай форме ў выніку турыстычных падарожжаў аўтара.

Паэзія „Майго Падляшша" з'яўляецца дакументам, які адлюстроўвае ўмовы жыцця рэгіёна, яго прыроду, культуру, цэлы перыяд пакалення аўтара.

Абодва згаданыя элементы паэзіі Д. Шатыловіча ўнушаюць мэтазгоднасць распаўсюджвання яе сярод школьнай моладзі, дзеля абгрунтавання здабываных у школе ведаў і (у другім выпадку) разбуджэння эмацыянальных адносін да сваёй малой айчыны.

На заканчэнне Чэслаў Сэнюх падзяліўся ўражаннямі ад падарожжа ў Мінск і ад імя кіраўніцтва Міжнароднай Еўра-Азіяцкай акадэміі навук уручыў прафесару Васілю Белаказовічу дыплом члена гэтай Акадэміі. Прысутныя павіншавалі прафесара воплескамі.

**Янка ЖАМОЙЦІН**

# Сучасная паэзія — як каровін хвост

Сучасная паэзія не падрывае мяне на подзвіг ці нейкае духовае дзеянне. Яна мне незразумелая, філасофская, мізэрная і, хутчэй, — гэта свайго роду проза, дзе ні ладу, ні складу. Бо ні рытму, ні рыфмы, ніякай гармоніі ні складнасці ў ёй няма. Разумнікі кажуць: тут схаваны вялікія залежы найлепшых думак, павучэнняў і развагі. Але гэта не для простага чалавека, які і так „Ніву" чытае з вялікай цяжкасцю, а тут яшчэ паяўляюцца вершы „найлепшага гатунку". І для каго?! Толькі для тых, хто іх піша! Хаця часта мо яны і самі не ведаюць, што пішуць. Такі стыль не прыцягвае чытача і такія творы хутка запыляюцца ў бібліятэцы, бо ніхто такія кніжкі ў рукі не бярэ і мала хто з чытачоў „Нівы" таксама горнецца да іх, калі паяўляюцца на старонках. Каб такім дзіўным стылем пісалі свае вершы нашы слаўныя майстры пяра, як Янка Купала, Максім Багдановіч, Аляксандр Пушкін, Міхаіл Лермантаў, Адам Міцкевіч, Тарас Шаўчэнка, дык літаратурны свет і самі людзі нічога пра іх не ведалі б. Таксама наш пачэсны Віктар Швед, каб так пісаў свае вершы, як сёння многія пішуць, дык ён не быў бы Шведам. Але ён трымаецца нашай паэтычнай традыцыі і таму яго вершы найлепшыя і ўсім зразумелыя. І слава яму!

„Парнасік" зліквідавалі па простай прычыне: як гэта можа быць, каб вершы простых людзей без „паэтычнага прызвання" маглі зацьміць паэзію слаўных паэтаў і асвяціць вочы простага чытача, які чытаў выключна „Парнасік", а тыя філасофскія на пачэсных старонках мінаў і сёння мінае? „Парнасік" быў дзесяць разоў даражэйшы мне за тыя вершы, што плённа друкуюцца і дзе напісана: ні ішло, ні ехала і дарогі не пытаецца — гэта сюжэт сучаснай паэзіі. І верце, што з такіх „разумных" вершаў ніхто не складзе і не скампануе ніякай народнай песні. Бо з пустога кубка вады не нальеш; такая, на жаль, праўда. Хай тая паэзія, „зразумелая і каштоўная" вышэйшым сферам і вучоным, але ніколі ніякі народ, у тым ліку і беларускі, не можа быць стопрацэнтна вучоным. А хто будзе пісаць вершы для простага народа, якога прыблізна васемдзесят працэнтаў? Бо яму сучасная і філасофская паэзія — незразумелая, а вучоба сёння дарагая.

Калісьці пакойны савецкі правадыр Мікіта Хрушчоў ацаніў абстрактны жывапіс па-свойму і, думаю, слушна: такі малюнак патрапіць выканаць звычайная карова сваім хвастом, махаючы ім, як пэндзлем, па паперы. А гэты чалавек не быў дурны і нядрэнна адукаваны. І, думаю, сучасная паэзія, як абстрактны жывапіс — яны родныя сястра і брат — патрапіць выканаць і карова сваім хвастом, махаючы ім на паперы.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

# Цудоўны скарб



Не верыцца, што на сённяшні дзень, калі адчыніць века маляванага куфра можна знайсці цудоўны скарб — мастацтва народнага ткацтва, якое раз з'яўляецца традыцыйным дываном, капай, іншым разам вышываным ручніком — „спадарожнікам чалавека" ці абрадавым касцюмам.

Творы сабраныя на выставу „Народнае ткацтва Гайнаўшчыны канца XIX і XX ст.ст." ствараюць асноўныя рысы мастацкай выразнасці беларускага ткацтва на паўднёвым Падляшшы. Тут менавіта кампазіцыйна-арнаментальныя схемы, рамесніцка-тэхналагічны комплекс выканання (матэрыялы, тэхнікі ткацтва, вышыўкі, пляцення і вязання карункаў, вырабу іншых дадатковых аздоб), каларыстычныя асаблівасці дэкору складаваліся на працягу пакаленняў. Разам з тым традыцыйнае ткацтва нясе ў сабе старажытны подых даўніх плямён, ментальнасць тых людзей, што спрадвеку жылі на ўрочышчах пушчы... Ручнікі, якія экспануюцца на выставе (фота 2) нібы ўвабралі ў сябе ўсё існае — зямное, нябеснае, чалавечае. Гэтыя сутнасці мала змяняе час... Мабыць, таму беларускае ткацтва Гайнаўшчыны застаецца люстэркам гісторыі народа, яго духу, творчых памкненняў і мастацкага светаўспрымання. Загадкавымі знакамі арнаменту, магічнай сілай абраду і хвалюючай вобразнай мовай мастацтва дываноў, ручнікоў, макатак ці кашуль і галаўных убораў прымае яно ўдзел у дыялогу культур мінулага, сённяшняга і будучага.

Выстава ўяўляе спробу паказу асаблівасцей народнага ткацтва Гайнаўшчыны. Яна аднак не завершана і патрабуе далейшай сістэматычнай даследчыцкай працы па зборы вестак пра мясцовыя асаблівасці традыцыйнага абрадавага ўжывання ручнікоў ці дываноў на вёсках Гайнаўскага павета. Экспазіцыя выставы народнага ткацтва і прылад працы, якімі апрацоўвалі лён, каноплі і воўну мае вялікую культурную значнасць для пашырэння ведаў пра скарбы беларускага, мясцовага, народнага мастацтва, зацікаўленасці грамадства ў захаванні спадчыны нашых дзядоў.

Праз шматгалоссе асаблівых твораў цяжка было сказаць хто можа быць пераможцам, таму што кожная праца мела свае прыкметы. Таму варта прыпаднесці і звярнуць увагу на жаночую кашулю з вёскі Лазіцы (фота 1) Міраславы Герцун. Па канструктыўным кроі кашуля з'яўляецца вельмі арыгінальнай у адносенні да традыцыйнага тыпу крою кашуль на Падляшшы (з прамымі плечавымі ўстаўкамі — прырамкавы тып). Адметнасцю можам назваць адразны стан, дзе ніжняя частка (перад) мае на ўзроўні жывата вельмі глыбокую складку. Даўжыня кашулі таксама іншая таму, што звычайна шылі іх амаль да калена. Арнамент скапманаваны ў тонкія палоскі сіне-бурачковага колераў размяшчаецца на манжэтах і стоечцы. У цэлым кашуля стрыманая каларыстычна, але дзякуючы крою — вельмі грацыёзная.

Аглядаючы ўважліва выставу кожны можа знайсці для сябе твор, які будзе несці творчае памкненне і зашыфраваную гісторыю чалавека Гайнаўшчыны.

**Івона Марціновіч**

PS. Выстава „Народнае ткацтва Гайнаўшчыны канца XIX і XX ст.ст" заснавала ў зале Беларускага музея гісторыі і этнаграфіі ў Гайнаўцы дзякуючы Зіновію Галёнку — уласніку рэстарана „Белая ружа" і солтысам вёсак Гайнаўскай гміны, якія дапамаглі сабраць цэлы этнаграфічна-экспазіцыйны матэрыял. Сардэчнае ім дзякуй.

**І. М.**



# Брэст — самабытны горад

Памежжа. Для каго мяжа, для каго „рубеж", для нас, тых хто сёння жыве на памежжы — нармальны стан, які мы разглядаем не як перашкоду ва ўзаемаадносінах з суседзямі, але, у першую чаргу, моцны патэнцыял для развіцця супрацоўніцтва і росквіту цэлага рэгіёна.

Вяртаючыся з падарожжа па Беласточчыне я з цікавасцю назірала праз аконца вагона старажытныя далягляды, углядалася ў твары людзей, што ўваходзілі ў вагон, каб праехаць пару прыстанкаў. Сялянскі край. Сялянскія твары. Сялянскі характар. І ўсё гэта этнічная Беларусь?

Хтосьці быццам упэўнівае беларусаў у тым, што іхняя культура глыбока сялянская, культура аратаяў, культура, як бы і не культура зусім. Сучасная рэчаіснасць памежжа — слабая урбанізацыя, але здаецца мне, не зусім натуральная, бо добра ведаю, што здарылася з Брэстам пасля далучэння яго да Расійскай імперыі.

Ад сярэдзіны XIX стагоддзя ў грамадстве ўкараняўся пункт гледжання, што горад Брэст да перабудовы ў крэпасць не ўяўляў сабою нічога каштоўнага і самабытнага. Вось і артыкул Сэрафіна Корчака-Міхалеўскага „Мінулае і будучыня Брэста", надрукаваны ў „Ніве" № 2 за 1999 год, зноў паўтарае і паўтарае нам: нічога ён сабою не ўяўляў — такі правінцыяльны гарадок, які і крыжакі бралі, і маскалі, ды і шведы неаднаразова, а ў XVIII стагоддзі толькі адна аднакласная парафіяльная школка навучала тутэйшых дзецюкоў грамаце. Параўнайце сумы збораў з гарадоў, што збіраліся ў Вялікім княстве Літоўскім у 1575 годзе: Полацкае ваяводства — 1 430 зл., Віцебскае — 15 134 зл., Віленскае — 46 691 зл., Брэсцкае — 24 364 зл. і вы зразумееце месца горада ў ім.

Няпоўны спіс архітэктараў, якія працавалі ў XVII-XIX стагоддзях у Брэсце, таксама дае ўяўленне аб будаўнічай культуры горада: Марцін Вольф — галандскі архітэктар (1619), Павал Гіжыцкі (1720), Дэламарс (1692-1702), Лем (Сігневіч) (1763), Павал Фантана (XVIII), Ян Малінер — камяняр (XVI ст.), Іосіф Місінгелевіч (1755-1766), Джузепе (Іосіф) Сака, Павал Лукін (1803-1805), Ю. К. Лянгкоўскі (1805-1808), К. В. Багеміле (1811-1826), Віктар Міхаэліс (1826-1835).

Культура сярэднявечнага Брэста — гэта архітэктурныя комплексы палацаў Радзівілаў і Сапегаў, каралеўскі замак і сядзіба біскупа, гэта цэрквы, касцёлы, манастыры, сярод якіх Сімяона Слупніка і Раждэства Божай Маці, бернардынак і аўгусцінаў, гэта першая на сучаснай Беларусі друкарня, якая сярод разнастайных тэалагічных твораў выпусціла і першыя нотныя канцыяналы.

Архітэктура сярэднявечнага Брэста — гэта цагляная готыка фарнага касцёла Вітаўта і царквы св. Мікалая, якія магчыма параўнаць з раманскімі забудовамі, драўлянае фахверкавае будаўніцтва, барока каталіцкіх храмаў, рознафункцыянальныя жыллёвыя і гаспадарчыя забудовы.

Будаўніцтва ў Брэсце рускай крэпасці (1830-1842 гг.), прывяло да страты архітэктурных помнікаў гісторыі і культуры XIV-XVIII стагоддзяў, знішчэння садова-паркавых ансамблей, рэшткі якіх да сённяшняга дня здзіўляюць сваім праяўленнем у дзівосных раслінах крэпасці. Найманейшым жа, на мой погляд, было вынішчэнне бібліятэк і архіваў. Страта культурных каштоўнасцей прывяла да таго, што не толькі звычайныя мяшчане, але і краязнаўцы часцяком не ўяўляюць усю глыбіню трагедыі.

Аб'ектыўныя перашкоды, з якімі сутыкаюцца краязнаўцы і навукоўцы пры даследаваннях гісторыі Брэста, больш слабыя, чым суб'ектыўныя, зыходзячыя з ідэалагічнай, ментальнай заангажаванасці як гісторыкаў, так і прадстаўнікоў уладных структур, ад якіх залежыць прыняццё рашэнняў аб раскопках ці рэстаўрацыі старажытных помнікаў.

Прычыны такой сітуацыі яшчэ ў 1927 годзе абгрунтаваў даследчык беларускага мастацтва Мікола Шчакаціхін: «Русіфікатарская палітыка расейскага ўраду ў так званых „западно-русских губерниях" прад'яўляла свае запатрабаванні так сама на навукова-даследчую працу на тэрыторыі Беларусі. Яна павінна была заўсёды мець на ўвазе нейкія пэўныя мэты, часта павінна была свядома ставіць сабе апрыорную задачу: абы якім-небудзь шляхам даводзіць спрадвечны „истинно-русский" характар так званага „западного края"». Але што змянілася зараз? Фактычна нічога — усё той жа ўсходні вектар знешняй палітыкі Лукашэнкі паглыбляе сацыяльна-палітычны і эканамічны крызіс у краіне. Жыхара зноў турбуе танная каўбаса, а спадчына, культура, навука — гэта каму заўгодна патрэбна, толькі не тым, хто насяляе зараз нашу нешчаслівую і занядбаную краіну пад светлай назваю Беларусь. Хочацца крыкам крычаць, абудзіцеся, людцы! Ніхто не здолее за нас саміх пабудаваць жыццё годнае і поўнакроўнае. Але, каб здолець адбудаваць сваю мару, неабходна зразумець, што няма шчасця без культуры і нацыянальнай спадчыны, назапашанай для дас нашымі продкамі, што трэба яе ахоўваць і не дазваляць ні сабе, ні іншым гаварыць аб ёй у зняважальным тоне.

**Ірына Лаўроўская**

# Каб Беларусі такія прэзідэнты!

**Адгалоскі**

Я — пастаянны чытач „Нівы" і з вялікай цікавасцю чытаю допісы нашых карэспандэнтаў, у тмы ліку і Мікалая Лук'янюка. Уцешыўся я, калі ў 9 н-ры ад 28 лютага г.г. заўважыў ягоную занатоўку „Слухаючы радыёперадачы". Аднак прачытаўшы яе настрой у мяне папсаваўся. Няўжо аўтар не здагадваецца, чаму журналісты ўкраінскай радыёперадачы не крытыкуюць прэзідэнта Украіны?

Калі параўнаць дзеянні прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі і прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы ды ягонага папярэдніка Леаніда Краўчука, адразу відаць, што тыя апошнія інакш разумеюць слова суверэнітэт і робяць усё магчымае, каб Украіна стала сапраўды незалежнай дзяржавай, шанаванай ва ўсім цывілізаваным свеце. З першых дзён незалежнасці Украіны прэзідэнт Краўчук разам з парламентам дзяржаўнай мовай устанавілі ўкраінскую. Вернуты былі гістарычныя нацыянальныя сімвалы — зялёна-жоўты сцяг і Трызуб у якасці герба. Прэзідэнт, прэм'ер, міністры, парламентарыі і чыноўнікі пасўюдна карыстаюцца ўкраінскай мовай. Кіраўніцтва Украіны канчаткова парвала каланіяльную залежнасць ад імперскай Расіі, адстаяла Крым і Севастопаль, дабілася справядлівага падзелу Чарнаморскага флоту. У кантактах з Расіяй прэзідэнт Кучма выступае як партнёр, а не як папрашайка.

А што сталася ў Беларусі пры прэзідэнце Лукашэнку? Прыпомню, пры дапамозе падманных рэферэндумаў адменена была дэмакратычная Канстытуцыя 1994 года і гістарычныя сімвалы, распушчаны быў дэмакратычна выбраны Вярхоўны Савет, рускай мове вернуты статус дзяржаўнай. Прэзідэнт увесь час намагаецца аб'яднаць Беларусь з Расіяй, што на практыцы абазначаць будзе страту Беларуссю рэштак і так кволага суверэнітэту. З прыходам Аляксандра Лукашэнкі да ўлады спыніўся працэс пераводу культурных і асветных установ на беларускую мову і ўсе па прыкладзе „бацькі" зноў вярнуліся ў рускамоўнае рэчышча. Беларусь, па прычыне непрадуманых рашэнняў кіраўніка дзяржавы, пападае ў штораз большую міжнародную ізаляванасць, як хаця б пасля скандалу вакол дыпламатычных рэзідэнцый у Драздах.

Тое, што робіць беларускі прэзідэнт ні ў якім выпадку нельга параўнаць да дзеянняў прэзідэнтаў Украіны і вось таму журналісты ўкраінскай радыёперадачы не маюць падстаў, каб падвяргаць іх крытыцы.

**Юстын Пракаповіч**

# Памерла вучаніца Агрыпіхі



*26.10.1998 г. У кабінеце доктар Надзеі Бітэль-Дабжынскай. Злева: Адам Мальдзіс, пані доктар, Анна Мекін, Часлаў Мекін.*

У Гданьску, 3 лютага, на 79 годзе жыцця памерла доктар эндакрыналогіі і педыятрыі Надзея Бітэль-Дабжынская. З гэтай цудоўнай жанчынай давялося мне пазнаёміцца ў пачатку 90-х гадоў. Прычынай знаёмства сталі сямейныя хваробы. Аня Іванюк, як тутэйшы аўтарытэт па медыцыне, накіравала мяне да яе. З той пары праблемы са здароўем, асабліва маіх дочак, вырашала Надзея Бітэль-Дабжынская. Аказалася, што пацыенты таксама сталі ёй блізкімі, магла з намі пагутарыць па-свойму, г.зн. па-беларуску. Праўду кажучы, упершыню я сустрэла доктара, які знайшоў час на прыватныя размовы з пацыентамі. Пасля візіты сталі таксама прыватнымі, а пані доктар званіла, каб прыехаць на абед, бо зрабіла мяса па-жыдоўску, ці прыехаць проста пагаварыць. Маім дочкам заўсёды паўтарала: „Каб быць доктарам, трэба любіць людзей, той хто не любіць людзей, не павінен быць доктарам". Расказвала нам, як здзяйсняліся яе дзіцячыя мары стаць лекарам. А не было гэта такое простае, хаця Надзея Бітэль-Дабжынская паходзіла з багатай памешчыцкай сям'і. Яе маці, з сям'і Льва Талстога, перад I сусветнай вайной закончыла пецярбургскую кансерваторыю. Бацька Дабжынскі закончыў агратэхнічнае і мастацкае аддзяленні. Мелі яны маёнтак пад Ашмянамі. У I сусветную вайну падаліся ў бежанства ў Херсонскую губерню, дзе 6.11.1919 г. у маёнтку Раёк, недалёка Адэсы, нарадзілася дачка Надзея. З бежанства не вярнуўся бацька. Маці з сынам Львом і дачкой у 1924 г. вярнуліся ў родныя мясціны. Спярша гаспадарылі ў Перлавай Горцы, каля Крэва, пасля ў Лошы каля Ашмян. У 1928-1936 гадах вучылася ў гімназіі ў Ашмянах, а пасля на медыцынскім факультэце Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні. Яе медычную адукацыю перарвала II сусветная вайна, а дакладна, ліквідацыя Універсітэта літоўскімі ўладамі ў снежні 1939 г. Студэнты атрымалі магчымасць вучыцца далей на літоўскім Універсітэце імя Вітаўта Вялікага ў Коўне. Як успамінала пані доктар, пасля кароткага перапынку ў навуцы (у знак пратэсту) і продажу газет у Вільні, вырашыла паехаць у Коўна, каб закончыць сваю адукацыю. Гаварыла: „Падумала тады, калі хачу быць доктарам, мушу скончыць медыцыну, усё роўна дзе". Найгорш было з літоўскай мовай, але экзаменатары неяк ласкава глядзелі на віленскіх студэнтаў. За час навукі ў 1939 годзе паспелі вывезці маці ў Казахстан, хаця, як толькі ўвайшлі саветы, сабрала сялян, каб увесь маёнтак падзялілі між сябе. Не дапамаглі і вельмі добрыя адносіны з сялянамі. Калі Надзея, свежаспечаная лекарка, вярнулася ў маёнтак Лоша ў 1942 годзе пасля навукі, сяляне прывіталі яе як землеўладальніцу вельмі ветліва: хлебам, соллю і самагонкай. Хацелі ёй аддаць карову, свіней з двара, каб толькі „пані" засталася ў маёнтку. Аднак Надзея вырашыла працаваць згодна са сваёй прафесіяй. Атрымала пасаду лекара ў Крэве. Сарганізавала шпіталь. Сяляне зрабілі ложкі з дошак, жанчыны далі кужаль на пасцель. Сама пані доктар жыла ў былой кватэры нейкага яўрэйскага лекара, дзе было шмат медыцынскай літаратуры, дзякуючы якой самастойна паглыбляла свае веды. У сваёй лекарскай практыцы аднак найбольш рабіла абортаў. Казала: „Ведаеш, дзеўкі тыя былі бедныя, трэба было ім дапамагаць. Сама ведаеш — раз немцы прайшлі, потым савецкія войскі". Аднак, калі ў 1944 годзе ўсталявалася савецкая ўлада, камісар мясцовага сельсавета вырашыў ліквідаваць прыватны шпіталь. Пані доктар, дарэчы, не атрымоўвала ніякай платы за сваю працу. Хворыя плацілі ў натуры; хто яйкамі, хто мясам, хто хлебам. Мела я тады ўсяго ўдоваль, апрача грошай — успамінала. Мабыць, гэта і не падабалася мясцовай уладзе. Але камісар нечакана захварэў на сіфіліс і прыйшоў да пані доктар, у таямніцы, вядома. Пані доктар, начытаўшыся з даваеннай перыёдыкі пра венерычныя хваробы, знайшла спосаб, каб камісара вызваліць ад бяды. Больш ужо не загадваў ён закрываць шпіталь. Але акушэрка, якая дапамагала Надзеі, аднойчы папярэдзіла яе, каб уцякаць, бо яе, так як і маці, вывезуць. Надзея вырашыла ўцячы ў Польшчу. Затрымалася ў Гданьску, дзе арганізавалася Медыцынская акадэмія і патрэбныя былі кадры. Хаця ўлады неахвотна ставіліся да літоўскага лекарскага дыплома, прынялі яшчэ раз экзамены і ўладкавалі на працу ў акадэмію. Усё сваё жыццё прысвяціла яна медыцыне. Амаль да апошняга дня прымала хворых у сваім доме па вуліцы Капэрніка ў Гданьску. Людзі прыязджалі з розных мясцін Паморскага ваяводства. Гэта яна стварыла гданьскую школу дзіцячай эндакрыналогіі. У 1949 г. абараніла доктарскую дысертацыю. У лячэнні часта прымяняла народныя метады: зёлкі, замовы. Гэтай альтэрнатыўнай медыцыны навучылася яшчэ ў дзіцячыя гады, ад ведзьмы Агрыпіхі, у Перлавай Горцы. Часта ведаючы сакрэты натуры ратавала людзям жыццё ці аблягчала хваробу. Расказвала, як здзівіла дактароў у акадэміі, ставячы „cięte bańki" і загаварваючы рожу. Пра свае прыгоды з медыцынай расказала ў кніжцы „Jak wiedźma Agrypicha znachorstwa mnie uczyła", напісанай ў 1967, а выдадзенай у 1991 годзе. Кніжка настолькі блізкая беларускай магіі і духу, што ажно просіцца, каб перавыдаць яе на беларускай мове. Выдаўцоў у Гданьску, на жаль, не зацікавілі ўспаміны пані доктар „Nasze pomoce i my", а яна так іх хацела выдаць перад смерцю! Частку ўспамінаў перадала яна мне, і я паспрабавала публікаваць іх у „Czasopisie". Там праляжалі больш года і ад студзеня г.г. пачалі публікавацца ў адрэзках п.з. „Wspomnienia świniopaski". Пані доктар пісала таксама вершы, асабліва, калі яе сыны, а мела іх трох, былі малыя. Напісала таксама 69 навуковых прац па педыятрыі і эндакрыналогіі.

Яе прыроднай прыкметай было надзвычайнае пачуццё рэчаіснасці і пры гэтым неабмежаваная шчырасць у адносінах з пацыентамі. Усіх трактавала па-сяброўску і ў кожнай бядзе дапамагала як магла, выкарыстоўваючы не толькі сакрэты медыцыны і знахарства, але і псіхалогіі. Калі прыходзілі да яе жанчыны, якія не маглі зацяжарыць па віне мужа (а той не прызнаваўся да сваёй бясплоднасці, толькі вінаваціў жонку ў браку дзяцей) пані доктар раіла адзін практычны спосаб, каб у такой сям'і паявілася дзіця. Гэтай тайнай быў кантакт з чужым мужчынам, які пад непрысутнасць мужа ўшчасліві́ў такую жанчыну і сям'ю. Некаторыя жанчыны, каб пазбегнуць раскладу ў сям'і з-за недахопу нашчадкаў, такімі парадамі карысталіся. „I do dziś ich szczęśliwi mężowie nie wiedzą, że wychowywali nie swoje dzieci, a ja w ten sposób uratowałam małżeństwo przed rozpadem", — расказвала, захоўваючы поўную тайну.

Не было толькі ратунку ў адной сітуацыі, калі прыходзіла смерць. Пані доктар яе не бачыла, але адчувала. Мела такі дзіўны пах. Калі лекарка ў шпіталі ўваходзіла ў палату і чула яго, абавязкова нехта з хворых паміраў. Відаць, таму і сама будучы ўжо вельмі хворай не паддалася неабходнай аперацыі.

Яшчэ 25 кастрычніка была на сустрэчы з Адамам Мальдзісам, які паставіў у Лошы помнік ейнаму брату Льву Дабжынскаму, мастаку, вучню Фердынанда Рушчыца. На другі дзень запрасіла яго да сябе на абед. Успомніла пра злога духа, які быў у Лошы і не даваў там спакою. Расказвала, як сцягваў з ложка пярыну, як уцякаў праз акно, як — магчыма — і ён таксама прычыніўся да заўчаснай смерці Лёвы. „Я ў яго не надта верыла, але не раз пераканалася, што ён там быў. Мушу пра яго напісаць, ён мяне ўсё інтрыгуе", — казала. Жартуючы, пыталі мы, ці не знайшоў яе ў Гданьску. „Не, тут яго не было, відаць, задалёка". І не хочацца верыць, няўжо той лашанскі злы дух знайшоў урэшце Надзею Дабжынскую тут над морам?

**Лена Глагоўская**

*Фота аўтара*

# Ваенныя жудасці

**Расказвае 82-гадовая жыхарка Орлі Зофія НЯДЗЕЛЬСКАЯ.**

1 верасня 1939 г. успыхнула вайна. Немцы з'явіліся ў Орлі праз 4-5 дзён. Спыніліся яны ў рынку і там прыводзілі сябе ў парадак — мыліся, чысцілі абмундзіраванне. Немцы былі ў нас два дні і пайшлі далей. Два тыдні не было нікога, а потым з'явіліся саветы. Прыйшлі яны неспадзявана і ніхто іх у нас не сустракаў і не будаваў прывітальных брамаў.

Багатых яўрэяў, напрыклад, Вайштына — уласніка кафлянага завода — вывезлі ў глыб Расіі, за іх багацце, за тое, што каровамі гандлявалі. Патомкі сасланай сям'і Вайштынаў цяпер жывуць у Ізраілі і нядаўна наведалі Орлю. Кафлярняй стаў загадваць савецкі чыноўнік Лейкін.

З рук савецкіх салдат загінулі ў нас бязвінныя людзі і памяць аб гэтых трагічных падзеях жыве сярод арлянскага грамадства. Пры санацыі моладзь праходзіла ваеннае абучэнне, давалі ім процігазавыя маскі. Савецкія салдаты, а былі гэта касавокія байцы, напіліся аднойчы гарэлкі і сталі шнырыць па Орлі. На адным панадворку сустрэлі 19-гадовага Ваню Вярбіцкага з процігазам. Юнака палічылі яны шпіёнам і павялі з сабою ў крывятыцкі лес. Ратаваць сына пабеглі маці Софія і бацька Антон, але ніхто адтуль жывым не вярнуўся. Круглай сіратой засталася 8-гадовая Вера, якая ў той час была ў цёткі. Пазней, калі рускія адступілі, людзі знайшлі трупы. Бязвінныя ахвяры, якія загінулі 24 чэрвеня 1941 г. добрыя людзі пахавалі ў адной магіле на могілках у Орлі. У той самы дзень загінула яшчэ троє жыхароў мястэчка. Каваль Міхал Война і школьны стораж Аляксандр Якімовіч хацелі схавацца ад саветаў у падвале школы, але паколькі былі яны чыста апрануты, палічылі іх шпіёнамі, буржуямі і расстралялі на месцы, ля сённяшняй вуліцы Аградовай. Якуб Назарэвіч загінуў на сваім панадворку, праўдападобна ад шалёнай кулі.

Пасля нямецка-савецкай вайны зноў прыйшлі да нас немцы, гэтым разам на некалькі гадоў. Завялі яны строгі парадак. У мяне была карова і трэба было мне здаць немцам 400 літраў малака ў год, за якое не плацілі, а толькі далі кілаграм цукру. Можна было браць сыроватку для свіней, якіх нельга было калоць без дазволу. Сярод немцаў траплялiся і добрыя людзі. Аднойчы прыйшоў да нас немец з курыцай і прасіў зварыць яму булён ды абяцаў заплаціць за паслугу. Я грошай узяць не хацела, тады ён даў мне кавалак мыла. Іншы немец, а называўся ён Рыхтэр і быў старшым рангам афіцэрам, дапамог ахрысціць дзіця маёй сястры Олі. Яна выйшла замуж за Алёшу, савецкага салдата. Калі пачалася вайна, ён пайшоў на фронт, а тут нарадзілася дзіця і не было нават у што апрануць немаўлятка. Немец паспачуваў, калі пабачыў цяжкое матэрыяльнае становішча маладой маці. Неўзабаве і Рыхтэра адаслалі на фронт.

У некаторых выпадках горшымі за немцаў аказаліся свае даносчыкі, якія супрацоўнічалі з акупантамі. Гэта з-за іх загінуў у Орлі Гаўрыл Трафімюк, малады хлопец з Махнатага. Немцы трымалі яго ў будынку каля старой сядзібы гміны. Вартавы дапамог яму ўцячы з будынка, але мясцовыя яго застрэлілі. Казалі, што бракавала некалькі соцень метраў, дзе чакала яго сястра з белым канём. Закапалі яго на месцы і толькі ў сямідзесятых гадах астанкі эксгумiравалі на могільнік. На мемарыяльнай дошцы напісалі, што быў ён савецкім партызанам, хаця быў гэта звычайны вясковы хлопец, які камусьці не спадабаўся.

У Міклашах, што каля Орлі, 30 чэрвеня 1944 года немцы сагналі ўсю вёску ў клуню і зачынілі. У арлянскім лесе былі ўжо рускія разведчыкі. Калі настаў вечар, чатырох байцоў падпаўзлі да рэчкі і гучна крыкнулі „ураааааа!" Немцы, якія панічна баяліся савецкіх кацюшаў, так перапалохаліся, што адступіліся ў галадоўскі лес. З таго часу жыхары Міклашоў адзначаюць гэты дзень і штогод даюць на абедню.

Другі раз рускія прыйшлі таксама неспадзявана. Немцы хутка адступілі, калі з боку Гайнаўкі пачаўся савецкі абстрэл. Уцяклі яны за рэчку Арлянку і падаліся дарогай на Тапчыкалы, на Бельск. Маіх двух родных братоў, Качаноўскіх, невядома па якой прычыне немцы забілі. Пахавалі іх у Шчытах. Маці ад жалю захварэла на галаву — бегала на могілкі і разгортвала магілу... Ужо ў мірны час паставілі мы ім помнік.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

# Пра адно думаем, аб іншым гаворым

**Адгалоскі**

Прачытаў я адгалоскі Мікалая Панфілюка „Твар і рыла” і „Сяброў знаходзім у бядзе” („Ніва” н-р 8 ад 21 лютага 1999 г.). Сам ужо не ведаю, што можна сказаць пра такога чалавека.

У адгалосцы „Сяброў знаходзім у бядзе” сябра Панфілюк дзякуе мне за тое, што выступіў я ў яго абароне: „Сардэчна дзякую (...) Уладзіміру Сідаруку за яго допіс (...), дзе бароніць мяне перад крытыкай спадара Мікалая Лук’янюка...” Пасля хваліць мяне за матэрыялы, якія друкую ў „Ніве”. У іншай адгалосцы, „Твар і рыла”, спадар Панфілюк піша так: „І таму нічога дзіўнага, што некаторыя карэспандэнты „Нівы” — камуністы з «людскім рылам» — не цэрпяць мяне і атакуюць з усіх бакоў”.

Пра якіх карэспандэнтаў пішаце, паважаны калега? Пра Лук’янюка, Петручука ці Сідарука? Бо, як мне вядома, зараз у „Ніву” пішуць толькі вышэйзгаданыя (разумеецца, што гавару аб „карэспандэнтах-камуністах” старэйшага ўзросту).

Калі я памыляюся, дык выявіце прозвішчы вашых „ворагаў”, якія вас атакуюць. Калі адмовіцеся ад гэтага, буду лічыць вас чалавекам несур’ёзным, пустаслоўным.

Прызнаюся шчыра, што ў допісе „Напішаш пяром...” я не думаў вас бараніць перад Мікалаем Лук’янюком, бо не ведаў „хто правы, а хто вінаваты” ў гэтай спрэчцы. Таму свой пагляд выказаў пытаннем: „Няўжо гэта праўда, што М. Панфілюк так лёгка мяняе свае погляды, што раз кагосьці лае, а потым аблаянага хваліць?”

Ваш адказ, што „мы людзі слабыя і часта падаем уніз і памыляемся...” я зразумеў дасканала. І таму ўжо паставіў кропку над „і”. Але тут жа ваш допіс „Твар і рыла”... Гэта ён паўплываў, што вымушаны я пісаць рэпліку ў такім тоне.

У допісе „Сяброў знаходзім у бядзе” так канстатуеце: „Праўду піша сп. Сідарук, што разважлівы чалавек робіць разважлівы крок і каб я меў гэта заўсёды ў сваіх генах і галаве, дык ніколі не дайшоў бы да непатрэбнай варожасці са спадаром Васілём Петручуком, нашым слаўным пісьменнікам. Не гневаюся я на спадара Мікалая Лук’янюка і лічу яго сваім другам ды верным і шчырым беларусам, якіх мала сярод нас”.

З вышэйсказаных слоў зразумеў я, што вы, спадар Панфілюк, чалавек неразважлівы, і не маеце такіх рысаў у сваіх генах і галаве. Ці не так?

Дык навошта выступаць публічна з рэплікамі і пісаць не тое, што думаеце. Бо, мне здаецца, што вы пра адно думаеце, а зусім пра другое пішаце.

І яшчэ наконт допісу „Твар і рыла”. Героямі гэтай публікацыі (чарговай), якіх хваліце, з’яўляюцца салідарнікі Анджэя Лепэра. Паводле вас мы, беларусы, „сядзім як мыш пад мятлою за іхнімі плячыма” і чакаем на гатовае, што яны адваююць?

Няўжо ў вашым разуменні беларусы нічога не варты, а толькі „Салідарнасць” славіцца ў народзе?

Ці трэба разумець, што дубіцкая „Салідарнасць”, якая „слушна ўзялася за аднаго царыка і выкінула яго” зараз таксама карыстаецца папулярнасцю ў асяроддзі? Калі так, дык напішыце пра гэта ў „Ніву”. Толькі хацелася б, каб усё гэта было падмацавана фактамі, не пустаслоўем.

Дасканала ведаю Дубічы-Царкоўныя. З гэтай мясцінай спалучыла мяне сем гадоў працы ў кінаперасоўцы. Адно зараз скажу, слаўныя людзі жывуць там, і ветлівыя. Сцвярджаю гэта на аснове мінулага і перажытага з імі. А наконт вашага „царыка”, якога „выкінулі” з вёскі, скажу вось што: трэба сумаваць і шкадаваць, што такое ў нашым, беларускім, асяроддзі здарылася.

Хачу яшчэ аднесціся да допісу Міхася Куптэля „Публіцысты і публіцыстыка” („Ніва” н-р 8 ад 21 лютага 1999 г.), які піша: „Пакуль што, калі-некалі публікуе свае погляды на розныя справы (...) у кожнай „Ніве” — публіцыст з Дубіч-Царкоўных на ўсялякія справы. Вельмі крытычна можна пісаць пра немцаў або амерыканцаў, горш калі трэба пісаць, што думаем пра сваіх...” Я згодны з гэтым. Вы, паважаны сябра Панфілюк, дакажыце, што з’яўляецеся цэнным карэспандэнтам і патрапіце напісаць не толькі верш для рыфмы, але і каштоўны публіцыстычны матэрыял.

Тэмаў для таго ў вас шмат. Абы толькі была ахвота! Здаецца мне, што час ужо „змяніць пласцінку” і пайсці „з духам часу”. Мо тады і паверу вашым словам, што вы сапраўдны беларус і разважлівы чалавек.

**Уладзімір Сідарук**

# Быць у Бельску

Каб атрымаць кніжку медыцынскіх паслуг, спатрэбілася мне з’ездзіць у Бельск, дзе я прапісаны на пастаяннае жыхарства. Еду цягнікам Шчэцін-Беласток ноччу; у тую пару мала людзей ездзіць так далёка, хіба што каму спатрэбіцца так як мне, дык едзе. У Беластоку па-старому: так як было пяць гадоў таму, так і сёння адбудоўваюць старыя царскія муры вакзала. У Бельск заехаў а 9-й гадзіне. Усе людзі размаўляюць па-свойму на вуліцах і ў крамах. Знаёмыя вітаюць мяне: „Здароў, Андрэй! Што ў цябе, што так доўга не быў у Бельску?” А я адказваю, што жыву цяпер у Ольштыне і г.д.

Крыху пагаварыўшы пайшоў я ў Відава. Па дарозе адведаў краму Колі Вакулеўскага; цяпер разбудаваная яна, як у горадзе нейкі „суперсам” ці „маркет”. Заглянуў таксама ў бар „У Джона”, але нікога там не было: людзі грошай не маюць і няма ім за што частавата выпіваць.

— Няма нідзе працы, — сказаў уласнік, — дык крыху тут маю занятку.

Пайшоў я далей і нагнаў мяне „малюхам” Саша Белаказовіч і падвёз пад хату. У Відаве паабапал бруку балота, бо была адліга, а раскопы па водаправодах яшчэ не зараслі летам травою.

На другі дзень схадзіў я ў краму „Majster”, дзе пры ўходзе прывіталі мяне Грыша Шарко і Станіслаў Бжазоўскі; тут можна ўсё купіць: ад цвікоў да замкоў.

— Ты хіба сын Валодзі Шарко? — запытаў я Грышу.

— Так, — адказаў ён і зігнуў, што я пісаў пра яго бацьку са шчупаком над рэчкаю.

— Ты і падобны на бацьку, такі рослы мужчына!

— А я ўжо большы за бацьку, — адказаў Грыша.

У Відаве ўсё па-старому: прадуктовы кіёск пасярэдзіне вёскі стаіць пусты і нішчэе ад некалькіх гадоў. Пасля двух дзён вяртаюся назад у Ольштын, бо там чакаюць мяне праца і жонка. Добра, калі ёсць да каго вяртацца, а я ж калісь вяртаўся да пустое хаты, дзе адны толькі мышкі бегалі. А цяпер цёпла, чыста і весела жывецца, хаця жонка крыху прыхварэла. А летам зноў вярнуся пабыць у Грабіне, каб пабачыць хараство прыроды.

**Андрэй Гаўрылюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніцца мне нейкая вялікая зала. Чалавек 40-50 ляжыць на падлозе. Я бачу нейкіх мужа з жонкай і іх дзяцей. Усе спяць, кожны з іх мае сваю асобную пасцель.

І я ляжу сярод іх. Раптам я адчуваю, што дошка ў падлозе, на якой ляжыць мая пасцель, зараз праваліцца. Дошкі, аднак, новыя, харошыя, свежыя. Я бяру сваю пасцель (прасціну, коўдру і падушку) і кладуся каля свайго калегі. І вось мая дошка сапраўды правалілася, увалілася ў падвал. Бачу, а там ужо нейкая дзяўчына, якая таксама ўвалілася. Яна цэлая, нічога не сталася.

Я бачу, што людзі ўжо тую маю дошку выцягнулі і карыстаюцца ёю як кладкай над дзіркай, якая зрабілася на месцы, дзе я ляжала.

Што будзе, Астроне? Я вельмі непакоюся. **Мірка**

Мірка! Твой непакой даволі-такі абгрунтаваны. Перш за ўсё ня́добрае можа вынікаць з таго факту, што ў той вялікай зале было многа людзей. Гэта сведчыла б пра нейкую залежнасць ад іншых, залежнасць непрыемную, цяжкую. Можа гэта здарыцца ў выніку нейкай хваробы, бо ў сне ты бачыла пасцель, а пасцель заўсёды сніцца на нейкую хваробу.

Ты ляжала на месцы, дзе дошка хісталася так, што ты адчувала: вось-вось яна праваліцца. І, бач, правалілася. Мяркую, што нешта ў тваім жыцці зменіцца, але, на жаль, не на лепшае. Будзе нейкая страта, нейкія недахопы. Можна было б меркаваць, што, паколькі з тае дошкі, якая вывалілася з-пад тваёй пасцелі, людзі зрабілі кладку і хадзілі па ёй праз тую дзірку, дык з тваіх клопатаў можа вынікнуць нейкая карысць. Але дзе там! Кладка, масток, на жаль, прадвяшчаюць цяжкое падарожжа, перашкоды, цяжкасці. Пэўна, ты будзеш іх мець дзякуючы тым людзям, якія хадзілі па гэтай кладцы.

**Астрон**

# Дубы — волаты і прыгажуны

Прыгожыя ды стройныя дубы растуць на тэрыторыі Гайнаўскай гміны. Убачыць іх можна на ўскраіне Белавежскай пушчы каля вёсак Лазіцы і Сасноўка, а таксама ў пушчы каля невялічкіх пасяленняў Сахачэва і Тапіла.

Шматлікія старыя дубы-волаты прыцягваюць зрок у лясных запаведніках: Дубовы гронд, Ліпіны (каля Гайнаўкі), Незнанава, Старына і Шчэкатова.

Дародныя дубы-помнікі красуюцца над пушчанскімі рачулкамі: Альшанкай (прытокам Лясной), Лазіцай (прытокам Лясной), Пэрэблем і Дубінкай (прытокам Тоўні). У цяжкадаступным месцы, там дзе ў Лясную ўпадае Хвішчэй, расце цар-дуб.

**(гай)**


**Дзіцячы лекар** д-р медыцынскіх навук
**Януш СЕМЯНЮК**
прымае ў кабінеце н-р 32
па вул. Св. Роха $14^{A}$ („Wenus”)
*чацвер: гадз. $14^{00} – 15^{30}$,*
*субота: гадз. $10^{30} – 12^{00}$.*
Магчымы хатнія візіты.
***Тэлефоны: 742 89 49; 0 90 211 588.***


# Цяжкія лёгкія

Беласточчыну ў нашай дзяржаве называюць зялёнымі лёгкімі Польшчы. Нам, жыхарам гэтай зямлі, можна ганарыцца, што ў нас захавалася першабытная прырода, што жывём у чыстым натуральным асяроддзі ды дыхаем чыстым паветрам. Аднак людзям для жыцця патрэбна не толькі паветра, але і праца, якая дае заробак.

На Беласточчыне людзі жывуць даволі бедна. Няма ў нас прамысловасці, павялічваюцца рады беспрацоўных. Чалавеку, якому правапіла за сорак, знайсці працу амаль немагчыма. І як такому бедалагу пракарміцца самому, не гаворачы пра сям’ю? Адзінокі чалавек можа... ўчыніць невялікае злачынства, каб папасці ў турму і правесці нейкі час бестурботна за кратамі. Сямейнаму прыходзіцца чакаць сацыяльнай дапамогі, але як пракарміць сям’ю за 150 зл. у месяц? Чыстым паветрам дзяцей не накорміш. Хоць ты жывуцом у зямлю лезь!

Эколагі, якія прапагандуюць ідэю Беласточчыны як зялёных лёгкіх Польшчы, а нават Еўропы, павінны бачыць не толькі прыроду, але і чалавека з ягонымі праблемамі. Таму трэба ў першую чаргу ствараць месцы працы для мясцовага насельніцтва.

**Мікалай Лук’янюк**


**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Міраповіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп’ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1999 r. upływa 5 czerwca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

## Кароткі курс параноі

**Пан Філюк**

Як ні дзіўна, але пану Філюку заўсёды сняцца праведныя сны. Дзякуючы ім і стаў ён авангардным карэспандэнтам маайскага весніка: славіў герояў новых дзён, узнімаў чырвоны сцяг перамогі святла над цемрай, а перш за ўсё — даказваў праведнасць свайго роду і фальшывасць Віна і ягоных нашчадкаў. Толькі ў выяўленчым запале губляў пачуццё рэальнасці: Вінавы былі на плыні і веснік, каб не прыдбаць уплывовых ворагаў, не пускаў на свае гоні мройных наскокаў, чым наклікаў на сябе справядлівы гнеў мройніка. Сны на нейкі час рваліся, затым выбухалі з новай сілай: пан Філюк не здаваўся ў баях за справядлівы лад.

Прайшлі гады. Задрыпонія вярнулася ў ранейшую стадыю. Маайскі веснік, разам з маайцамі кануў у Лету. На небакраі адроджанага ладу нарадзіўся і адэкватны вястун — выразнік запаветных думак сонцавітаў. Паплылі новыя сны і новыя песні. І першым запявалам аказаўся выпрабаваны ў класавых баях авангардыст маайцаў. Цяпер, узяўшы на ўзбраенне святыя вартасці, пачаў ён паганіць чорную ноч маайскай акупацыі і славіць узышоўшае над Задрыпоніяй маладое сонца. Задно сноўдае змагарнымі кухталямі ў азіяцкія рылы былых саратнікаў: кожны нумар адкрывалі партрэтам свайго любімага Мао, — дакарае. — На кожным сходзе валаклі ў прэзідыум абрыдлую лялькy Мао, — шчыруе. Ведае: хто ж будзе рыцца ў старых падшыўках і правяраць ягоныя праўдамоўныя вартасці? Добра апанаваў метад маайцаў: няважна як было, важна — як павінна быць. Словам, як яму сёння прыснілася. Спадзяецца таксама і на маайцаў: не пакінулі ж сонцавітам архіў з неапублікаванымі мроямі. На ўсякі выпадак застрахаваўся ўсхваленнем роду Вінаў, заганы якіх у новай рэчаіснасці набылі станоўчую якасць. — Ганаруся такімі землякамі — заявіў.

Убачыў пан Філюк і страшны сон: сусед Пецька Ук, якога надоечы сціхаў за грахоўную службу ў маайскай фармацыі, зноў наверсе. Дык на запас прачуліў гонарам і сяброўствам Пецьку.

Флюгерны пан Філюк. Не вырывайце яго з новых сноў. Можа прачнуцца ў непрадбачанай рэчаіснасці.

Ценем маайскім ахінуты

**Сідар Макацёр**

PS. Недапешчанаму ўладамі Панчанку, як і пану Філюку, сніліся прэзідыумы: сядзіць ён у іх поруч з Броўкам і Танкам. Цікава, з кім хоча сядзець пан Філюк? Няўжо з маайскай лялькай?

***Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка:***

**Калыханка**

Сніцца пану Філі сон,
Быццам ён Напалеон:
Б'е направа і налева —
З прафесійным б'е прыцэлам
Каму ў мызу,
Каму ў бок;
То падчэпіць гакам знізу,
То садане зверху ў клёк.
Будуць помніць праз вякі,
Як біліся Філюкі.
Сёння квасіў нос маайцу,
Заўтра Вінаў знішчу род,
Ука Пецьку зраблю здрайцам...
Хумвейбіню? У ноздры дрот!
У прывід дуляй садануў —
Выганяе сатану.
Сніцца яму, што з вякоў
Нясе радасць і любоў.
Ну і ну! Дык не цяльпук!
Ну і спрытны пан Філюк.

Пародыі

### Цешчын гной

*Адзінае, што засталося —*
*усё жывая цешча...*
*Сагнуў спіну пад фурай гною...*

***Уладзімір САЎЧУК***

Пакуль жывая цешча —
Спакою не відаць:
Як сяду пісаць вершы —
Ідзі гной выкідаць.
Бяру я вілы ў сенцах
І ў хлеў хутчэй лячу,
А цешча ў акенцы
Крычыць: „Сачу-сачу!"
Ачышчу хлеў ад гною,
Надворак прыбяру.
Хай цешчын дом вясною
Хоць раз брыкне пярун.
Я з ёю жыць стаміўся,
І рукі ў мазалях.
Навошта я жаніўся —
Каб гной цягаць з хлява?..
Пакіну цешчу з жонкай,
Цярпець не ў сілах больш.
Бо гной іх у пячонках
Засеў, як вострый нож.

**Сяргей Чыгрын**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. птушка са стракатым апярэннем, веерападобным чубам і сагнутай уніз дзюбай, 8. мужчынскі чаравік, 9. вывучае неапазнаныя лятаючыя аб'екты, 10. пералётная птушка з цёмным апярэннем, 11. горад між Гомелем і Бранскам, 13. сіняя фарба для падсінівання бялізны, 15. сталіца старажытнай Мідыі, 16. плывучая землечарпальная машына, 20. лагічны довад, 22. опера Х. В. Глюка, 23. густая змазка для машын, 27. асенні месяц, 29. ліхі, каварны чалавек, 30. сугучнасць канцоў вершаваных радкоў, 31. канчына, 32. верхняя доўгая вопратка, 33. поўная сіла музычнага гука, 34. яна рукy мые.

**Вертыкальна:** 1. п'яніцы заліваюць за яго, 2. Ноеў карабель, 4. напр. консул, 5. Мар'ян, беларускі паэт (нар. у 1943 г.), 6. лірычная румынская песня, 7. дэталь з вінтавай разьбой у адтуліне, 12. буйны вучоны, 14. электрамагнітнае ўстройства для індукцыйнага награвання, 16. музыка амерыканскіх неграў, 17. жаночы голас, 18. звязвае мозг з тканкамі, 19. адміністрацыйная адзінка ў ЗША, 21. месца для вырошчвання расады, 24. рэшткі вытворчасці прыдатныя для іншых мэтаў, 25. прыбор для вымярэння электрычнага супраціўлення, 26. украінскі возчык, 27. частка паверхні зямлі, 28. жалезныя вілы для накідвання гною. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 5 нумара**

**Гарызантальна:** Балашы, жальба, Бамако, міра, абак, Далапікала, Мары, вага, сцерва, падцёк, барсук.

**Вертыкальна:** Батумі, шыба, жако, байдак, Мантпілiер, Радары, аблава, Макапа, Гаўрук, сцёк, ваба.

Рашэнне: **Мікола Гайдук**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

Фрашкі пра нашых

### *Беларускае літарататурнае О-сяроддзе хворых інтрыганаў —*

*так яго называюць*
*розныя геніяльныя Йваны*

**Б**ыла Белавежа на ўзгорку сасновым.
**Л**ес паліняў, рэжуць дрэвы на дровы.
**О**, гляньце, людкове: новае Мора паэтаў
**Х**люпнула; новыя Зоркі ці, можа, планеты?
**І** хай не палягнуць, як воі,
у грэцкім яры адпетым.

**Вандал Арлянскі**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Прызнаюся табе, малады чалавек, што ў сваім жыцці меў я пятнаццаць жанчын.

— Вы ж калісь мне гаварылі, што толькі пяць...

— Магчыма, аднак я тады баў замалады, каб ведаць усю праўду.

* * *

— Можа так закалоць вепрука, — гаворыць жонка мужу.

— Навошта? То ж свята няма...

— Ты забыў? Праз тыдзень споўніцца дваццаць пяць гадоў як мы пажаніліся.

— А што ж той бедны вяпрук вінаваты, што дваццаць пяць гадоў таму я зрабіў такую дурноту?

* * *

Бура на моры. Пасажырка пытае капітана карабля:

— Ці гэта праўда, што ў гэтым месцы мора мае тысячу метраў глыбіні?

— Не, тут будзе чатырыста пяцьдзесят.

— Дзякуй вам, а то я так пералякалася.

* * *

— Каханы, — гаворыць матросава жонка мужу, — я выйграла першую ўзнагароду ў вікторыне.

— Выдатна! А што гэта за ўзнагарода?

— Двухтыднёвая пабыўка над морам.

* * *

— Прадайце бутэльку піва, — просіць выпівака ў краме.

— Плаціце чатыры злоты.

— Чаму так дарага?

— Два злоты за піва і два злоты за падатак ад раскошы.

Праз тыдзень піток зноў прыходзіць у краму і кладзе на прылавак чатыры злоты. Прадаўшчыца выдае яму два злоты рэшты.

— А што з падаткам ад раскошы: злiквідаваны?

— Падатак ёсць, толькі піва забракла.

* * *

Прапойца заказвае куфель цёмнага піва, пасля куфель светлага, пасля зноў цёмнае, светлае, і гэтак далей.

— Колькі куфляў піва вы выпіваеце за дзень? — здзіўлена пытае нехта.

— Ад дванаццаці да пятнаццаці.

— Такую маеце смагу?

— Смагу!? Я зусім не дапускаю да смагі!